# *Што такое дэмакратыя?*







Мы жывем у такі час, калі па ўсім зямным шары рэхам аддаецца покліч свабоды і дэмакратыі. Усходняя Еўропа адхіліла таталітарныя формы кіравання, якія праіснавалі амаль палову стагоддзя, а рэспублікі былога Савецкага Саюза вядуць барацьбу за тое, каб замяніць камуністычны рэжым з амаль 75-гадовай гісторыяй на новы дэмакратычны лад, якога ў іх ніколі не было. Але за драматычнымі падзеямі, якія суправаджаюць надзвычайныя палітычныя змены ў Еўропе, ад нас у значнай ступені хаваецца тое абяцанне будучай дэмакратыі, якое змабілізавала людзей ва ўсім свеце. Паўночная і Паўднёвая Амерыка зараз фактычна ўтварылі паўшар'е дэмакратыі; Афрыка перажывае беспрэцэдэнтную эру дэмакратычных рэформ; новыя, дынамічныя дэмакратыі ўкараніліся таксама ў Азіі.

Гэтая распаўсюджаная ў свеце з'ява абвяргае скептыкаў, якія сцвярджалі, што сучасная ліберальная дэмакратыя — гэта з'ява асабліва заходняя, якую нельга паўтарыць у незаходніх культурах. У свеце, дзе дэмакратыя дзейнічае ў такіх розных краінах, як Японія, Італія і Венесуэла, інстытуты дэмакратыі могуць законна імкнуцца задаволіць жаданні, агульныя для людзей усяго свету, — жаданні свабоды і самакіравання.

Дом Свабоды — заснаваная ў ЗША даследчая ўстанова — штогод друкуе агляд, у якім даецца ацэнка кожнай краіне адпаведна ступені развіцця палітычнай незалежнасці і грамадскіх свабод у ёй — гэтыя два крытэрыі істотныя для любой дэмакратыі. Аналізуючы тэндэнцыі за перыяд 1990–91 гадоў, Дом Свабоды падлічыў, што ў тым жа годзе 65 са 165 незалежных дзяржаў свету, што адпавядае 39 працэнтам насельніцтва Зямлі, былі цалкам свабоднымі. Калі дабавіць гэтую лічбу да тых краін, што лічацца часткова

свабоднымі, гэтая колькасць узрасце да 115, ці больш за 67 працэнтаў насельніцтва Зямлі. Упершыню ў справаздачы Дома Свабоды вызначалася, «што колькасць свабодных краін і насельніцтва, што жыве ў свабодных грамадствах, пераўзыходзіць несвабодныя краіны і іх насельніцтва».

Аднак відавочны ўздым свабоды на працягу апошняга дзесяцігоддзя ні ў якім выпадку не гарантуе яе поўную перамогу. Чэстэр І. Фін малодшы, прафесар адукацыі і грамадскай палітыкі Універсітэту ў Вандэрбілце і дырэктар Аб'яднання адукацыйнага майстэрства, у сваім выступленні перад групай выкладчыкаў і ўрадавых чыноўнікаў у Манагуа (Нікарагуа) сказаў: «Тое, што людзі натуральна аддаюць перавагу свабодзе, а не прыгнёту, зразумела. Але гэта зусім не даказвае, што дэмакратычныя палітычныя сістэмы могуць лёгка стварацца і доўга захоўвацца. Наадварот. Ідэя дэмакратыі трывалая, а практыка дэмакратыі – не.»

Сёння дэмакратычныя каштоўнасці можна адраджаць, але, як паказаў доўгі ход гісторыі чалавецтва – ад Вялікай Французскай рэвалюцыі канца XVIII ст. да ўздыму аднапартыйных рэжымаў у сярэдзіне XX ст., – большасць дэмакратый былі нешматлікія і недаўгавечныя. Але гэты факт – не прычына для песімізму або адчаю, а хутчэй выклік. Калі жаданне свабоды можа быць прыроджаным, то практыку дэмакратыі трэба вывучаць. Ці будзе віток гісторыі і надалей адчыняць дзверы свабоды і магчымасцяў, залежыць ад адданасці і калектыўнай мудрасці саміх людзей, а не ад якіх-небудз жалезных законаў гісторыі і, зразумела, ад магчымай прыхільнасці самапрызначаных кіраўнікоў.

Процілегла да некаторых уяўленняў, здаровае дэмакратычнае грамадства не толькі арэна, на якой людзі змагаюцца за свае асабістыя мэты. Дэмакратыі квітнеюць, калі імі кіруюць грамадзяне, якія жадаюць скарыстаць сваю цяжка здабытую свабоду для ўдзелу ў жыцці грамадства – далучаючы свае галасы да публічных дыскусій, абіраючы прадстаўнікоў, адказных за свае дзеянні, і прызнаючы неабходнасць цярплівасці і кампрамісу ў грамадскім жыцці. Грамадзяне ў дэмакратычных краінах карыстаюцца правам на асабістую свабоду, але разам з тым яны падзяляюць адказнасць за аб'яднанне з іншымі для стварэння будучыні, у якой галоўнымі каштоўнасцямі таксама будуць свабода і самакіраванне.

# Вызначэнне дэмакратыі




*Кіраванне народа*

Большасці людзей добра вядома слова «дэмакратыя», але гэта паняцце ўсё яшчэ няправільна разумеюць і ўжываюць, асабліва ў той час, калі таталітарныя рэжымы і ваенныя дыктатуры спрабуюць знайсці ў народа падтрымку, выступаючы пад дэмакратычнымі лозунгамі. Справа ў тым, што панаванне дэмакратычнай ідэі абудзіла некаторыя асноўныя і найбольш узнёслыя гістарычныя прыклады волі і розуму чалавека: ад Перыкла ў старажытных Афінах да Вацлава Гавела ў Чэшскай Рэспубліцы, ад Дэкларацыі Незалежнасці Томасаа Джэферсана 1776 г. да апошніх выступленняў Андрэя Сахарава ў 1989 г.

Паводле слоўнікавага вызначэння, дэмакратыя — «гэта такое кіраванне народа, пры якім вышэйшая ўлада справядліва належыць народу і выкарыстоўваецца непасрэдна ім або яго прадстаўнікамі, абранымі згодна са свабоднай выбарчай сістэмай». Кажучы словамі Аўраама Лінкальна, дэмакратыя — гэта кіраванне «народа, народам і дзеля народа».

Словы «свабода» і «дэмакратыя» часта ўжываюць як узаемазамяняльныя, але гэта не сінонімы. Дэмакратыя сапраўды з'яўляецца шэрагам ідэй і прынцыпаў свабоды, але яна складаецца таксама і з шэрагу звычаяў і працэдур, якія сфарміраваліся на працягу доўгай, часта пакутлівай гісторыі. Карацей кажучы, дэмакратыя — гэта ўсталяванне свабоды. Вось чаму можна выявіць правераныя часам асноўныя прынцыпы канстытуцыйнага кіравання,

а таксама правоў чалавека і роўнасці людзей перад законам – усё тое, што павінна мець любое грамадства, каб справядліва называцца дэмакратычным.

Дэмакратыі падзяляюцца на два асноўныя тыпы – прамую і прадстаўнічую. У прамой дэмакратыі ў прыняцці грамадскіх рашэнняў могуць удзельнічаць усе грамадзяне, без пасрэдніцтва абраных або прызначаных службовых асобаў. Такая сістэма ў чыстым выглядзе можа функцыянаваць толькі сярод параўнаўча малой колькасці людзей – напрыклад, у грамадскай арганізацыі, ці племянным савеце, ці мясцовым аб'яднанні рабочага саюзу, калі яго члены могуць сустракацца ў адным пакоі для абмеркавання праблем і прыняцця пэўных рашэнняў кансэнсусам або большасцю галасоў. Старажытныя Афіны – першая дэмакратычная дзяржава ў свеце – змаглі ажыццявіць на практыцы прамую дэмакратыю, са сходам, на які збіралася ад 5000 да 6000 чалавек – максімальная колькасць людзей, якіх фізічна можна сабраць у адным месцы і ажыццяўляць прамую дэмакратыю.

Сучаснае грамадства з яго памерамі і складанасцю мае мала магчымасцяў для ажыццяўлення прамой дэмакратыі. Нават у паўночна-ўсходніх Злучаных Штатах, дзе адной з самых паважаных традыцый з'яўляецца сход жыхароў гарадоў Новай Англіі, большасць гарадскіх абшчынаў сталі занадта вялікімі для таго, каб збіраць усіх сталых жыхароў у адным месцы і праводзіць галасаванне па тых пытаннях, якія ўплываюць на іх жыццё.

Сёння самай распаўсюджанай формай дэмакратыі, як для 50-тысячнага горада, так і для 50-мільённых нацый, з'яўляецца прадстаўнічая дэмакратыя, у якой грамадзяне абіраюць службовых асобаў дзеля прыняцця палітычных рашэнняў, фармулявання законаў і кіравання карыснымі для грамадства праграмамі. Такія службовыя асобы могуць ад імя народа сістэматычна і змястоўна абмяркоўваць складаныя грамадскія праблемы, што патрабуе затратаў часу і энергіі і што часцей за ўсё непрактычна для вялікай большасці звычайных грамадзянаў.

Спосабы абрання падобных чыноўнікаў могуць значна вар'іравацца. Напрыклад, на ўзроўні нацыі заканадаўцы могуць быць абранымі ад выбарчых акругаў, кожная з якіх абірае аднаго прадстаўніка. У сістэме прапарцыянальнага прадстаўніцтва, наадварот, кожная палітычная партыя прадстаўлена ў заканадаўчых установах згодна з працэнтам ад сумарнай колькасці галасоў нацыі. Правінцыйныя і мясцовыя выбары могуць адпавядаць гэтым нацыянальным узорам або абіраць сваіх прадстаўнікоў больш нефармальна – шляхам групавога кансэнсусу замест выбараў. Але які б спосаб ні выкарыстоўваўся, грамадскія службовыя асобы ў прадстаўнічай дэмакратыі выконваюць свой абавязак ад імя народа і нясуць адказнасць перад народам за свае дзеянні.

### *Улада большасці і правы меншасці*

Усе дэмакратыі з'яўляюцца сістэмамі, у якіх грамадзяне свабодна прымаюць палітычныя рашэнні ўладай большасці. Але ўлада большасці не абавязкова дэмакратычная: напрыклад, ніхто не назваў бы законнай або справядлівай сістэму, якая дазволіла б 51 працэнту насельніцтва ад імя большасці прыгнятаць астатнія 49 працэнтаў. У дэмакратычным грамадстве ўлада большасці павінна спалучацца з гарантыямі асабістых правоў чалавека, якія, у сваю чаргу, служаць таму, каб абараняць правы меншасцяў – этнічных, рэлігійных ці палітычных або проста тых, хто прайграе ў дыскусіі наконт якога-небудзь закона. Правы меншасці не залежаць ад прыхільнасці большасці, і голас большасці не можа іх ліквідаваць. Правы меншасцяў абараняюцца таму, што дэмакратычныя законы і ўстановы абараняюць правы ўсіх грамадзянаў.

Даяна Рэвіч – вучоная, пісьменніца і памочніца міністра адукацыі Злучаных Штатаў – напісала ў навуковым дакладзе, прызначаным для выступлення на семінары па праблемах адукацыі ў Польшчы: «Калі прадстаўнічая дэмакратыя дзейнічае згодна з канстытуцыяй, якая абмяжоўвае паўнамоцтвы ўрада і гарантуе ўсім грамадзянам асноўныя правы, то гэтая форма кіравання называецца канстытуцыйнай дэмакратыяй. У такім грамадстве большасць кіруе, а правы меншасцяў абараняе закон і яго дзеянне».

Гэтыя элементы вызначаюць асновы ўсіх сучасных дэмакратый, незалежна ад таго, наколькі гэтыя дэмакратыі адрозніваюцца паводле гісторыі, культуры і эканомікі. Нягледзячы на велізарныя адрозненні паміж нацыямі і грамадствамі, істотныя элементы любога канстытуцыйнага кіравання – уладу большасці, спалучаную з асабістымі правамі і правамі меншасцяў, і ўладу закона – можна ўбачыць у Канадзе і Коста-Рыцы, Францыі і Батсване, Японіі і Індыі.

### *Дэмакратычнае грамадства*

Дэмакратыя – гэта штосьці большае, чым набор канстытуцыйных законаў і працэдур, якія вызначаюць механізмы функцыянавання ўрада. У дэмакратычнай дзяржаве ўрад – гэта толькі адзін элемент, які ў грамадскай структуры суіснуе са шматлікімі і разнастайнымі ўстановамі, палітычнымі партыямі, арганізацыямі і аб'яднаннямі.

Гэтая разнастайнасць называецца плюралізмам і прадугледжвае, каб у дэмакратычным грамадстве многія арганізаваныя групы і ўстановы не залежылі ад урада ў пытаннях, звязаных з іх існаваннем, законнасцю або паўнамоцтвамі.

У дэмакратычным грамадстве дзейнічаюць тысячы прыватных арганізацый — як мясцовых, так і нацыянальных. Многія з іх выконваюць ролю пасрэднікаў паміж індывідуумамі і складанымі грамадскімі і ўрадавымі ўстановамі, часткай якіх яны з'яўляюцца, выконваючы функцыі, якіх не мае ўрад, і прапануе індывідуумам магчымасці карыстацца сваімі правамі і абавязкамі як грамадзянам дэмакратычнай краіны.

Гэтыя групы прадстаўляюць інтарэсы сваіх членаў рознымі шляхамі: падтрымкай кандыдатаў на грамадскую пасаду, абмеркаваннем праблемы і спробай уплываць на палітычныя рашэнні. Праз падобныя групы людзі атрымліваюць, што вельмі важна, доступ да ўдзелу як ва ўрадавых, так і ў сваіх уласных арганізацыях. Такіх прыкладаў шмат і яны вельмі разнастайныя: дабрачынныя арганізацыі і цэрквы, групы аховы навакольнага і бліжэйшага асяроддзя, дзелавыя аб'яднанні і працоўныя саюзы.

У аўтарытарным грамадстве, па сутнасці, усе гэтыя арганізацыі павінны кантралявацца ўрадам або іншым чынам несці адказнасць перад ім. У дэмакратычнай дзяржаве паўнамоцтвы ўрада юрыдычна ясна вызначаны і дакладна абмежаваны. У выніку прыватныя арганізацыі свабодны ад урадавага кантролю; наадварот, многія з іх спрабуюць уздзейнічаць на ўрад і імкнуцца знайсці магчымасці падтрымліваць яго адказнасць за свае дзеянні. Іншыя групы, звязаныя з мастацтвам, практыкай рэлігійнай веры, навуковымі даследаваннямі або іншымі інтарэсамі, могуць выбіраць, ці падтрымліваць ім невялікія кантакты з урадам, або наогул іх не мець.

У гэтай дзейснай прыватнай сферы дэмакратычнага грамадства грамадзяне, на якіх не цісне патэнцыяльна цяжкая рука дзяржавы, могуць вывучаць магчымасці, якія дае свабода, а таксама абавязкі, звязаныя з самакіраваннем.

**АПОРЫ ДЭМАКРАТЫІ**

- Суверэнітэт нацыі.
- Кіраванне, заснаванае на згодзе з кіруемымі.
- Улада большасці.
- Правы меншасці.
- Гарантыя асноўных правоў чалавека.
- Свабодныя і справядлівыя выбары.
- Роўнасць перад законам.
- Адпаведны парадак судаводства.
- Канстытуцыйныя абмежаванні ўрада.
- Грамадскі, эканамічны і палітычны плюралізм.
- Вартасці цярпімасці, прагматызму, супрацоўніцтва і кампрамісу.

# ПЕРШЫЯ ДЭМАКРАТЫ

Месца і час першага з'яўлення такога складанага феномена, як дэмакратыя, дакладна ўказаць даволі лёгка: горад-дзяржава Афіны, V ст. да н.э. — Афіны Перыкла, названыя так у гонар свайго самага знакамітага лідэра, натхнілі цэлыя пакаленні пазнейшых палітычных тэарэтыкаў і дзяржаўных дзеячоў. Аднак з сучаснага пункту гледжання многія аспекты афінскай дэмакратыі здаюцца дзіўнымі і нязвыклымі.

Галоўнай палітычнай установай у Афінах VI і V стагоддзяў да н.э. была Асамблея, якая звычайна складалася з 5000–6000 членаў і на якую дапускаліся ўсе паўналетнія грамадзяне мужчынскага полу (за выключэннем рабоў і чужаземцаў). Асамблея магла вырашыць фактычна любую ўнутраную праблему простай большасцю галасоў, без якіх-небудзь юрыдычных абмежаванняў. Судовыя разборы праводзіліся судом прысяжных, які складаўся з 501 грамадзяніна і вызначаў таксама простай большасцю галасоў віну ці невінаватасць.

Цікава, што кіраўнікоў Асамблеі абіралі не галасаваннем, а лёсаваннем, бо жыхары старажытных Афінаў верылі, што кожны грамадзянін здольны займаць грамадскую пасаду. Праўда, падобных пасадаў было няшмат: военачальнікі абіраліся тэрмінам на адзін год, а іншых вядомых нам устаноў выканаўчай улады, такіх, як прэзідэнт, прэм'ер-міністр, кабінет або пастаянная дзяржаўная служба, Афіны Перыкла не мелі. Адказнасць за прынятце рашэнняў ускладалася амаль што цалкам на грамадзянаў-членаў Асамблеі — цяжар грамадскай службы, які сёння большасць людзей палічыла б непрымальным.

Афіны Перыкла з-за адсутнасці канстытуцыйных абмежаванняў былі схільныя да фракцыйнасці і маніпуляцый праніклівых або красамоўных прамоўцаў. Наогул, гэта былі дэмакратычныя Афіны, якія асудзілі на смерць філосафа Сакрата — зарабіўшы тым самым неўміручую непрыязнасць яго самага славутага вучня і заўзятага антыдэмакрата Платона.

Нягледзячы на ворагаў і слабасці, афінская дэмакратыя не была кволай кветкай. Яна праіснавала каля 200 гадоў, перажыўшы нават паражэнне ў Пелапанэскай вайне ў 404 г. да н.э. ад свайго хітрага саперніка Спарты.



# Правы

Мы лічым відавочнымі ісціны, што ўсе людзі створаны роўнымі, што Творца надзяліў іх пэўнымі неад’емнымі правамі, сярод якіх жыццё, свабода і імкненне да шчасця; што дзеля забеспячэння гэтых правоў сярод людзей заснаваны ўрады, якія атрымліваюць абгрунтаваныя паўнамоцтвы са згоды тых, кім яны кіруюць.




*Неад’емныя правы*

У гэтых незабыўных словах амерыканскай Дэкларацыі незалежнасці Томас Джэферсан выклаў галоўны прынцып, на якім заснавана дэмакратычная форма кіравання. У дэмакратычнай дзяржаве ўрады не даюць пералічаных Джэферсанам асноўных свабод; урады ствараюцца дзеля абароны тых свабод, якімі кожны чалавек валодае, дзякуючы свайму існаванню.

Паводле фармулёўкі філосафаў Асветніцтва XVII і XVIII стагоддзяў, неад’емныя правы – гэта дадзеныя Богам прыродныя правы. Гэтыя правы не парушаюцца, калі створана цывільнае грамадства, і ні грамадства, ні ўрад не могуць адмяняць або адчужаць іх.

У ліку неад’емных правоў – свабода слова і інфармацыі, свабода рэлігіі і сумлення, свабода сходаў і права на роўную абарону закону. Гэта далёка не поўны пералік правоў, якімі могуць карыстацца грамадзяне ў дэмакратычнай дзяржаве – дэмакратычныя грамадствы адстойваюць таксама такія грамадзянскія правы, як права на справядлівы суд – але гэты пералік уключае самыя істотныя правы, якія павінен абараняць кожны дэмакратычны ўрад. Гэтыя правы, паколькі яны існуюць незалежна ад урада, не могуць ні адмяняцца, ні падлягаць часоваму капрызу выбарчай большасці. Напрыклад, першая папраўка да Канстытуцыі Злучаных Штатаў не дае народу свабоды рэлігіі або друку, але забараняе Кангрэсу прымаць любы закон, які робіць замах на свабоду інфармацыі, рэлігіі і мірнага сходу. Гісторык Леанард Леві сказаў: «Індывідуумы могуць быць свабоднымі, калі іх урад несвабодны.»

Дакладныя фармулёўкі законаў і працэдур, якія датычаць асноўных правоў чалавека, у розных грамадствах будуць непазбежна адрозніваццa, але кожная дэмакратычная дзяржава павінна стварыць такія канстытуцыйныя, прававыя і грамадскія структуры, якія б забяспечвалі абарону гэтых правоў.

*Свабода слова*

Свабода слова і інфармацыі – гэта крыніца жыватворнай сілы кожнай дэмакратыі. Абмяркоўваць і галасаваць, збірацца і пратэставаць, шанаваць, забяспечваць справядлівасць дзеля ўсіх – ўсё гэта дасягаецца неабмежаванай свабодай слова і інфармацыі. Канадзец Патрык Вілсан, стваральнік тэлесерыялу «Барацьба за дэмакратыю», заўважае: «Дэмакратыя – гэта зносіны людзей, якія расказваюць адно аднаму пра свае агульныя праблемы і вынаходзяць агульны лёс. Перш чым людзі змогуць кіраваць сабой, яны павінны мець магчымасць свабодна выказвацца».

Грамадзяне дэмакратычнай дзяржавы ўпэўнены, што ў выніку адкрытага абмену ідэямі і поглядамі праўда ў рэшце рэшт пераможа хлусню, будуць лепш зразумелыя каштоўнасці іншых, больш ясна вызначаныя сферы кампрамісу і будзе знойдзены шлях да прагрэсу. Чым большы аб'ём падобных абменаў, тым лепш. Амерыканскі эсэіст І.Б. Уайт выказаў гэта такім чынам: «Друк у нашай свабоднай краіне надзейны і карысны не таму, што мае добрыя ўласцівасці, а таму, што ён вельмі разнастайны. Пакуль існуе шмат уладальнікаў, кожны з якіх шукае сваю ўласную ісціну, мы маем магчымасць ісці да праўды і жыць у яе святле... Бяспека залежыць ад колькасці».

У процілегласць аўтарытарным дзяржавам, дэмакратычныя ўрады не кантралююць, не дыктуюць і не асуджаюць зместу пісьмовай або вуснай прамовы. Дэмакратычная дзяржава сама залежыць ад адукаванага, дасведчанага грамадства, доступ якога да найшырэйшай сферы інфармацыі дазваляе яму з найбольшай аддачай удзельнічаць у грамадскім жыцці. Невуцтва нараджае апатыю. Дэмакратычная дзяржава квітнее дзякуючы энергіі сваіх грамадзян, якія натхняюцца вольнаю плынню ідэй, фактаў, поглядаў і меркаванняў.

Але што павінен рабіць урад у тых выпадках, калі сродкі масавай інфармацыі злоўжываюць свабодай слова, падаючы інфармацыю, якая, на думку большасці, з'яўляецца ілжывай, супярэчлівай, безадказнай або проста дрэннай якасці? Адказ тут будзе такі: наогул нічога. Бо ўрад не можа даваць ацэнку такім дзеянням. Увогуле, лякарства дзеля свабоды слова ёсць яшчэ большая свабода слова. Гэта можа ўяўляцца парадоксам, аднак у імя свабоды слова дэмакратычная дзяржава часам павінна абараняць правы асобаў і груп, якія нават самі прытрымліваюцца такіх недэмакратычных установак, як падаўленне свабоды слова. У дэмакратычным грамадстве грамадзяне абараняюць гэтае права з перакананнем, што адкрытая дыскусія ўрэшце рэшт прывядзе да большай праўды і шырэйшых грамадскіх дзеянняў, чым калі б свабода слова і разыходжанні ў поглядах падаўляліся.

Больш таго, прыхільнік свабоды слова перакананы ў тым, што падаўленне свабоды слова, якую я лічу сёння парушанай, ёсць патэнцыяльная пагроза майму карыстанню свабодай слова заўтра – якую, магчыма, вы ці хто-небудзь іншы маглі б палічыць парушанай. Адным з класічных прыхільнікаў гэтага погляду з'яўляўся англійскі філосаф Джон Сцюарт Міль, які ў 1859 г. ў сваім эсе «Аб свабодзе» даказваў, што калі падаўляецца свабода слова, пакрыўджанымі аказваюцца ўсе людзі. «Калі погляд правільны, то яны пазбаўляюцца магчымасці падмяніць памылку на ісціну, – пісаў Міль. – Калі ж няправільны, то яны страчваюць... больш яснае разуменне і больш яркае ўражанне ад ісціны, якое ўзнікае ад сутыкнення яе з памылкай».

Вынікам свабоды слова з'яўляецца права людзей збірацца і мірна патрабаваць, каб урад пачуў іх скаргі. Без гэтага права збірацца і быць пачутымі свабода слова абясцэнілася б. З гэтай прычыны свабоду слова лічаць цесна, нават непадзельна звязанай з правам збірацца, пратэставаць і патрабаваць зменаў. Дэмакратычныя ўрады маюць законнае права рэгуляваць час і месца правядзення палітычных сходаў і маршаў дзеля захавання спакою, але яны не могуць выкарыстоўваць гэтую ўладу ў мэтах падаўлення пратэсту або прадухілення іншадумных груп ад таго, каб іх галасы пачулі.

*Свабода і вера*

Свабода рэлігіі, або, бяручы шырэй, свабода сумлення, азначае, што ні ад каго не павінны патрабаваць прытрымлівацца пэўнай рэлігіі або якога-небудзь іншага веравання супраць яго ці яе жадання. Да таго ж, ніхто не павінен ніякім чынам быць пакараны або аштрафаваны на той падставе, што ён ці яна выбірае тую ці іншую рэлігію або, магчыма, не выбірае наогул ніякай. Дэмакратычная дзяржава прызнае рэлігійную веру чалавека глыбока асабістай справай.

Адпаведна свабода рэлігіі азначае, што ніхто не можа быць прымушаны ўрадам прызнаць афіцыйную царкву або веру. Дзяцей нельга прымушаць наведваць спецыяльную рэлігійную

школу, нікога не могуць прымусіць насуперак жаданню наведваць рэлігійныя службы, маліцца ці прымаць удзел у рэлігійных мерапрыемствах. З прычыны доўгай гісторыі або традыцый многія дэмакратычныя нацыі маюць афіцыйна прызнаныя цэрквы ці такія рэлігіі, якія атрымліваюць падтрымку дзяржавы. Аднак гэта не вызваляе ўрад ад адказнасці за абарону свабоды людзей, чые веравызнанні адрозніваюцца ад афіцыйна прынятых рэлігій.

*Грамадзянства: правы і абавязкі*

Дэмакратычныя дзяржавы заснаваны на прынцыпе, згодна з якім урад існуе, каб служыць народу; але народ не існуе, каб служыць ураду. Інакш кажучы, людзі – грамадзяне дэмакратычнай дзяржавы, а не яе падначаленыя. Хаця дзяржава і абараняе правы сваіх грамадзян, яны, у сваю чаргу, павінны засведчыць дзяржаве сваю адданасць. З іншага боку, у аўтарытарнай сістэме дзяржава, як з'ява адасобленая ад грамадства, патрабуе ад свайго народа адданасці і служэння – без аніякага ўзаемнага абавязку забяспечваць згоду на яе дзеянні.

Калі грамадзяне ў дэмакратычнай краіне, напрыклад, галасуюць, то яны карыстаюцца сваім правам і абавязкам вырашаць, хто будзе кіраваць ад іх імя. У аўтарытарнай дзяржаве, наадварот, галасаванне служыць толькі ўзаконенню ўжо праведзенага рэжымам адбору. Галасаванне ў такім грамадстве не закранае ні правоў, ні абавязкаў, якія маюць грамадзяне, і з'яўляецца толькі вымушанай дэманстрацыяй грамадскай падтрымкі ўрада.

Такім жа чынам грамадзяне дэмакратычнай краіны маюць права па сваім выбары ўступаць у незалежныя ад урада арганізацыі і свабодна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці. Адначасова грамадзяне павінны браць на сябе адказнасць за тое, што вынікае з такога ўдзелу: пашыраць сваю адукацыю па пытаннях цярплівасці ў зносінах з тымі, хто прытрымліваецца процілеглых поглядаў і ісці на кампраміс, калі трэба дасягнуць згоды.

Між тым у аўтарытарнай дзяржаве добраахвотныя прыватныя групы нешматлікія або іх наогул няма. Яны не служаць людзям сродкам абмеркавання праблем ці вядзення ўласных спраў, а толькі з'яўляюцца другой рукой дзяржавы, якая трымае сваіх грамадзян у паслушэнстве.

Вайсковая служба дае іншы, але такі ж кантрастны прыклад правоў і абавязкаў у дэмакратычным і недэмакратычным грамадствах. Два розныя народы могуць мець патрэбу ў тым, каб у мірны час маладыя мужчыны пэўны перыяд служылі ў войску. У аўтарытарнай дзяржаве такі перыяд вайсковай службы лічыцца абавязкам, які грамадзяне бяруць на сябе ў адпаведнасці з законам, прынятым імі ж самімі абраным урадам. У любым грамадстве вайсковая служба ў мірны час можа быць непажаданай дзеля індывідуума. Але ў дэмакратычнай дзяржаве грамадзянін-салдат служыць, асэнсоўваючы, што ён выконвае абавязак, добравольна ўзяты на сябе грамадствам. Больш таго, члены дэмакратычнага грамадства валодаюць правам калектыўна дзейнічаць і мяняць гэты абавязак: ліквідаваць абавязковую вайсковую службу і ствараць добраахвотнае войска, як гэта зрабілі Злучаныя Штаты і іншыя краіны; мяняць тэрмін вайсковай службы, як гэта нядаўна адбылося ў Германіі; або, як у Швейцарыі, захоўваць рэзервовую вайсковую службу дзеля мужчын як важную частку грамадзянства.

Пад грамадзянствам ў гэтых прыкладах разумеецца шырокае вызначэнне правоў і абавязкаў,



паколькі гэта два бакі аднаго і таго ж медаля. Ажыццяўленне чалавекам сваіх правоў уключае таксама яго абавязак абараняць і ўмацоўваць гэтыя правы як для сябе, так і для іншых. Нават грамадзяне добра ўсталяваных дэмакратый часта няправільна разумеюць гэта і надта часта карыстаюцца правамі, ігнаруючы абавязкі. Як заўважае палітолаг Бэнджамін Барбэр, «дэмакратыю часта разумеюць як уладу большасці, а правы ўсё больш – як асабістую ўласнасць людзей, з-за чаго іх лічаць абавязкова антаганістычнымі дэмакратыі большасці. Але гэта азначае неразуменне ні правоў, ні дэмакратыі».

Канечне, справядліва, што асобы карыстаюцца асноўнымі, або неад'емнымі правамі, такімі, як свабода слова, сходаў і рэлігіі, што, такім чынам, абмяжоўвае кожны дэмакратычна створаны ўрад. У гэтым сэнсе асабістыя правы можна лічыць апорай у барацьбе супраць злоўжывання сваімі паўнамоцтвамі ўрада або часовай палітычнай большасці.

Аднак ў іншым сэнсе, правы, як і людзі, не існуюць у ізаляцыі. Правы – гэта не асабістая маёмасць людзей, яны існуюць у тых межах, у якіх іх прызнаюць іншыя члены грамадства. Выбаршчык, паводле вызначэння амерыканскага філосафа Сіднэя Хука, – гэта «апошні абаронца сваёй уласнай свабоды». З гэтага пункту гледжання, дэмакратычны ўрад, абраны і адказны перад сваімі грамадзянамі, не праціўнік, а абаронца асабістых правоў. Правы грамадзян узмацняе тое, што грамадзяне дэмакратычнай дзяржавы бяруць на сябе пэўныя абавязкі і адказнасці.

Шырэй кажучы, гэтыя адказнасці патрабуюць удзелу ў дэмакратычным працэсе, што і гарантуе яго функцыянаванне. Грамадзяне, як найменш, павінны вывучаць крытычныя пытанні, з якімі сутыкаецца іх грамадства – хаця б толькі дзеля таго, каб свядома прагаласаваць за кандыдатаў, якія вылучаюць сваю кандыдатуру на выбарах на высокі пост. Закон можа патрабаваць ад грамадзян выканання іншых абавязкаў – напрыклад, службу ў грамадзянскіх або крымінальных судах, але большасць з іх – добраахвотныя.

Сутнасць дэмакратычнай дзейнасці – у актыўным свабодным удзеле грамадзян у жыцці свайго грамадства і нацыі. Без гэтага шырока падтрыманага ўдзелу дэмакратыя пачне слабець і захавае толькі малую колькасць груп і арганізацый. Аднак пры ўмове актыўнага ўдзелу людзей ва ўсім спектры жыцця грамадства дэмакратыі могуць вытрымаць непазбежныя эканамічныя і палітычныя буры, што праносяцца над кожным грамадствам; пры гэтым ім не трэба будзе ахвяраваць свабодамі і правамі, якія яны прысягалі абараняць.

**АСНОЎНЫЯ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА**

- Свабода слова, інфармацыі і друку.
- Свабода рэлігіі.
- Свабода сходаў і асацыяцый.
- Права на роўную абарону закону.
- Права на адпаведны парадак судаводства і справядлівы суд.

Актыўны ўдзел у грамадскім жыцці часта вузка вызначаюць як барацьбу за палітычную пасаду. Але ўдзел грамадзян у жыцці дэмакратычнага грамадства нашмат шырэйшы – гэта значна больш, чым толькі ўдзел у выбарах. На акруговым ці гарадскім узроўнях грамадзяне могуць быць членамі школьных камітэтаў або ствараць грамадскія групы, а таксама вылучаць свае кандыдатуры на выбарах у мясцовыя органы ўлады. На дзяржаўным, правінцыйным або нацыянальным узроўнях грамадзяне могуць далучаць свае галасы і подпісы да абмеркавання грамадскіх праблем або ўступаць у палітычныя партыі, прафесійныя саюзы ці іншыя добраахвотныя арганізацыі. Які б ні быў узровень іх укладу, лёс здаровай дэмакратычнай дзяржавы залежыць ад пастаяннага, дасведчанага ўдзелу ў ім шырокага кола яе грамадзян.

«Дэмакратыя, – піша Даяна Рэвіч, – гэта працэс, звычай жыць і працаваць разам. Ён эвалюцыйны, не статычны. Яго нялёгка прывесці ў дзеянне. Свабода азначае адказнасць, а не свабоду ад адказнасці».

Дэмакратыя ўвасабляе ідэалы свабоды і самавыяўлення, але яна таксама прадбачыць і натуру чалавека. Яна не патрабуе ад грамадзян універсальнай дабрадзейнасці, а толькі адказнасці. Як сказаў амерыканскі багаслоў Рэйнальд Нэбур, «успрымальнасць чалавекам справядлівасці робіць дэмакратыю магчымай, а схільнасць чалавека да несправядлівасці робіць дэмакратыю неабходнай».

### *Правы чалавека і палітычныя мэты*

Абарона асноўных правоў чалавека шырока прызнаецца як першаснова: па ўсім свеце яе ўключылі ў канстытуцыі, гэтак жа, як і ў Хартыю Аб'яднаных Нацый і ў такія міжнародныя пагадненні, як Заключны Акт Хельсінкскай Канферэнцыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (КБСЕ).

Іншая справа – выявіць розніцу паміж катэгорыямі правоў. Апошнім часам з'явілася тэндэнцыя, асабліва сярод міжнародных арганізацый, пашыраць спіс асноўных правоў чалавека. Да асноўных свабод слова і роўнасці перад законам гэтыя арганізацыі дадалі правы на занятасць, на адукацыю, права

кожнага на ўласную культуру або нацыянальнасць і на адэкватны ўзровень жыцця.

Урады абараняюць неад'емныя правы, такія, як свабода слова, з дапамогай стрымлівання, абмяжоўваючы свае ўласныя дзеянні. Уклад сродкаў у адукацыю, забеспячэнне аховы здароўя або гарантыя занятасці патрабуюць, насупраць, актыўнага ўдзелу ўрада ў садзейнічанні пэўнай палітыцы і праграмам. Адпаведны клопат пра здароўе і адукацыйныя магчымасці павінны адносіцца да прыродных правоў кожнага дзіцяці. На жаль, гэта пакуль што не так, і здольнасць грамадстваў да дасягнення такіх мэтаў будзе мяняцца ад краіны да краіны. Аднак, трансфармуючы кожную чалавечую патрэбу ў правы, урады рызыкуюць тым, што могуць узрасці цынізм і знявага ў адносінах да ўсіх правоў чалавека.

## ВЯЛІКАЯ ХАРТЫЯ ВОЛЬНАСЦЯЎ

Караля Джона і пэраў Англіі ніхто не залічыў бы ў дэмакраты, але дакумент, які яны падпісалі на полі Ранімiду ў 1215 г., — гэта паваротны пункт у развіцці канстытуцыйнай формы кіравання.

Пэры абразіліся, калі зразумелі, што кароль парушыў традыцыйны феадальны закон, які даваў ім значную аўтаномію ў адносінах з манархам. Калі кароль Джон адхіліў іх патрабаванні, яны сабралі войска і прымусілі караля падпісаць Magna Carta (Вялікую Хартыю), якая складалася з 63 артыкулаў, у большасці з якіх былі пералічаны правы, спрыяльныя дзеля землеўладальніцкага дваранства і царквы.

Тым не менш пазней цэлы шэраг палажэнняў пачаў прымяняцца да ўсіх жыхароў Англіі; іншыя ж склалі аснову прававой сістэмы краіны. Magna Carta сцвярджае, напрыклад, што ва ўсіх важных дзяржаўных справах, у тым ліку па пытанні аб павышэнні падаткаў, кароль павінен звяртацца да пэраў за парадай і згодай. У пазнейшыя стагоддзі гэтыя ўмовы былі выкарыстаны дзеля заявы, адпаведна з якой ні адзін закон не мог быць прыняты і ні адзін падатак не мог быць павялічаны без згоды органа, які прадстаўляе ўсіх людзей — парламента. (У ходзе Амерыканскай Рэвалюцыі пасяленцы, што дамагаліся незалежнасці, павярнулі гэтую ідэю супраць Англіі, абвясціўшы лозунг: «Ніякага падаткаабкладання без прадстаўніцтва»). Гарантыі на адпаведны парадак судаводства і судовага разбору журы, члены якога павінны быць роўнымі па становішчу з абвінавачаным, паходзяць з палажэнняў Magna Carta.

Паколькі многія наступныя англійскія каралі паспяхова ігнаравалі Хартыю, эвалюцыя феадальных правоў Magna Carta ў канстытуцыйныя правы звычайных людзей заняла цэлыя стагоддзі. Толькі ў ходзе славутай рэвалюцыі 1688 г. Англія дамаглася поспехаў ва ўстанаўленні трывалай канстытуцыйнай манархіі з парламентам у якасці вышэйшага нацыянальнага законатворчага органа. Вырашэнне праблемы ператварэння самога парламента ў дэмакратычную ўстанову з шырокім прадстаўніцтвам зойме яшчэ стагоддзе.



MAGNA CARTA 1215 — Facsimile of the original in the British Museum (Cotton MS. Augustus II 106)

# Улада закону

*Роўнасць і закон*

Права на роўнасць перад законам, альбо як часта гавораць, на роўную абарону закону, з'яўляецца асноўным для кожнага справядлівага і дэмакратычнага грамадства. Багатыя ці бедныя, прадстаўнікі этнічнай большасці ці рэлігійнай меншасці, палітычныя прыхільнікі дзяржавы ці яе апазіцыя – усе маюць права на роўную абарону закону.

Дэмакратычная дзяржава не можа гарантаваць кожнаму аднолькавыя жыццёвыя ўмовы, ды яна і не бярэ на сябе такой адказнасці. Аднак, як адзначае спецыяліст у галіне канстытуцыйнага права Джон П. Фрэнк, «дзяржава ні пры якіх абставінах не павінна навязваць дадатковыя элементы няроўнасці; яна павінна наладжваць роўныя і раўнапраўныя адносіны з усімі грамадзянамі».

Ніхто не стаіць над законам, які, нарэшце, ствараецца людзьмі, а не проста навязваецца ім. Грамадзяне дэмакратычнай дзяржавы падпарадкоўваюцца закону, паколькі яны прызнаюць, хаця і ўскосна, што падпарадкоўваюцца самім сабе як законатворцам. Калі законы ўстанаўліваюцца народам, які потым павінен ім падпарадкоўвацца, гэта спрыяе як правапарадку, так і дэмакратыі.

*Парадак судаводства*

У кожным грамадстве ва ўсе часы, адзначае Фрэнк, тыя, хто кіраваў сістэмай крымінальнага судаводства, меў уладу, якая патэнцыяльна вяла да злоўжыванняў і тыраніі. Ад імя дзяржавы людзей саджалі ў турмы, пазбаўлялі маёмасці, іх катавалі, ссылалі і каралі смерцю без законнай на тое падставы і часта нават без прад'яўлення абвінавачвання. Ніводнае дэмакратычнае грамадства не павінна дапускаць гэткія злоўжыванні.

Кожная дзяржава павінна мець сродкі для падтрымання правапарадку і пакарання злачынстваў, аднак правілы і працэдуры, пры дапамозе якіх дзяржава забяспечвае законнасць, павінны быць агульнадаступнымі і адназначнымі, не засакрэчанымі і не адвольнымі, а таксама не павінны з'яўляцца прадметам палітычных маніпуляцый з боку дзяржавы.

Якія існуюць асноўныя патрабаванні да парадку судаводства ў дэмакратычнай дзяржаве?

Нічыё жыллё не павінна стаць аб'ектам уварвання з боку паліцыі ці дагляду без пастановы суда, у якой былі б абгрунтаваныя падставы для такіх дзеянняў. Паўночны стук у дзверы паліцэйскіх несумяшчальны з прынцыпамі дэмакратычнага грамадства. Ніхто не павінен утрымлівацца пад арыштам без прад'яўлення абгрунтаванага, дакладнага, пісьмовага абвінавачвання ва ўчыненні крымінальнага злачынства. Кожны чалавек, які абвінавачваецца ў злачынстве, мае права дакладна ведаць сутнасць абвінавачвання, а таксама, у адпаведнасці з прынцыпам habeas corpus, неадкладна быць вызваленым, калі суд установіць неабгрунтаванасць прад'ўленага абвінавачвання ці незаконнасць арышту.

Абвінавачаныя ва ўчыненні злачынства асобы не павінны доўга ўтрымлівацца пад арыштам. Яны маюць права на тое, каб іх справа была разгледжана тэрмінова і публічна, а таксама на вочную стаўку з абвінаваўцамі, у ходзе якой яны маюць магчымасць задаваць свае пытанні.

Улады павінны вызваліць абвінавачаную асобу пад залог ці ўмоўна, калі няма небяспекі, што яна можа зрабіць уцёкі ці іншыя злачынствы. «Жорсткія і незвычайныя», з пункту гледжання традыцый і законаў грамадства, формы пакарання забаронены.

Асобы не павінны прымушацца да дачы паказанняў супраць саміх сябе. Гэтая забарона павінна быць абсалютнай як гарантыя супраць прымусу да самаагаворвання. Паліцыя, такім чынам, ні пры якіх



абставінах не павінна ўжываць катаванні ці іншыя фізічныя альбо псіхалагічныя метады ўздзеяння. Прававая сістэма, якая забараняе выкарыстанне сілы дзеля атрымання прызнання, памяншае імкненне паліцыі да выкарыстання катаванняў, пагроз альбо іншых форм злоўжыванняў з мэтай атрымання інфармацыі, паколькі суд у час слуханняў справы не дазволіць выкарыстаць гэтую інфармацыю ў якасці доказу.

Асобы не павінны прыцягвацца да крымінальнай адказнасці за адно і тое ж злачынства двойчы. Ніводная асоба, якая прызнана судом невінаватай, не можа зноў абвінавачвацца ў гэтым злачынстве.

У сувязі з магчымасцю злоўжыванняў з боку ўлады забаронены так званыя законы зваротнай сілы. Гэта датычыцца законаў, прынятых па факце, каб прыцягнуць да адказнасці асобу за ўчыненне якога-небудзь дзеяння, якое ў час яго ўчынення не з'яўлялася злачынствам.

Падсудным даецца права на дадатковую абарону ад прымусовых дзеянняў дзяржавы. У Злучаных Штатах, напрыклад, абвінавачаныя маюць права на адваката, які абараняе іх інтарэсы на ўсіх этапах крымінальнага працэсу, нават у выпадку, калі яны самі не могуць аплаціць гэту законную працэдуру. Паліцыя ў момант арышту таксама павінна праінфармаваць падазроную асобу аб яе правах, у тым ліку на адваката і на адказ ад дачы паказанняў (каб пазбегнуць самаагаворвання).

Звычайнай для тыраній тактыкай з'яўляецца абвінавачванне апазіцыі ўраду ў дзяржаўнай здрадзе. На гэтай падставе такое асабліва цяжкае злачынства, як дзяржаўная здрада, павінна мець гранічна вузкае азначэнне, каб пазбегнуць магчымасці выкарыстоўваць яго ў якасці сродку падаўлення апазіцыі ўраду.

Ніводнае з гэтых абмежаванняў не азначае, што дзяржава не павінна мець неабходных сродкаў для ажыццяўлення законаў і пакарання іх парушальнікаў. Наадварот, сістэма крымінальнага права ў дэмакратычным грамадстве будзе эфектыўнай настолькі, наколькі ўрад успрымаецца насельніцтвам як справядлівы і здольны абараніць не толькі правы асобы, але таксама і інтарэсы ўсяго грамадства.

Суддзі могуць прызначацца ці выбірацца на пасаду, займаць гэтую пасаду абмежаваны перыяд ці на працягу ўсяго жыцця. Паколькі іх выбіраюць, вельмі важна, каб яны былі незалежнымі ад палітычнага кіраўніцтва дзяржавы, што забяспечыць іх непрадузятасць. Суддзі не могуць быць зняты з пасады па нязначнай альбо трывіяльнай палітычнай прычыне, а толькі за вельмі сур'ёзныя парушэнні альбо падман — і нават у гэтым выпадку толькі ў адпаведнасці з фармальнай працэдурай — праз імпічмэнт (прад'яўленне абвінавачвання) і суд у заканадаўчым органе.

*Канстытуцыі*

Канстытуцыя з'яўляецца апорай дэмакратычнага ўрада — афіцыйнае сцвярджэнне яго асноўных абавязкаў, абмежаванняў, працэдур і ўстаноў. Канстытуцыя краіны з'яўляецца яе вышэйшым законам, і ўсе грамадзяне ад прэм'ер-міністра да сялян падпарадкоўваюцца яе палажэнням. Канстытуцыя, якая звычайна з'яўляецца адзіным кадыфікацыйным пісьмовым актам, як мінімум вызначае паўнамоцтвы нацыянальнага ўрада, забяспечвае гарантыі асноўных правоў чалавека і ўстанаўлівае галоўныя працэдуры дзейнасці ўрада.

Нягледзячы на свае трывалыя, фундаментальныя якасці, канстытуцыі, калі яны з'яўляюцца нечым большым за цудоўныя скамянеласці, павінны паддавацца зменам і прыстасаванням. Самая старая пісьмовая канстытуцыя ў свеце — Канстытуцыя Злучаных Штатаў — складаецца з сямі кароткіх артыкулаў і 26 папраўак. Аднак гэты пісьмовы дакумент — толькі фундамент велізарнага будынка, што ўзводзіўся на працягу апошніх 200 год з судовых рашэнняў, статутаў, прэзідэнцкіх пастаноў і звычаяў і захаваў Канстытуцыю Злучаных Штатаў дзейснай і слушнай.

Такая эвалюцыя канстытуцыі адбываецца ў кожнай дэмакратычнай краіне. Наогул існуюць два накірункі думак наконт працэсу дапаўнення альбо змянення нацыянальнай канстытуцыі. Згодна з першым, неабходна прыняць складаную працэдуру, якая патрабуе шматлікіх этапаў і значных большасцяў. У выніку канстытуцыю мяняюць рэдка, а калі і робяць гэта, то толькі на пераканальных падставах, што атрымліваюць надзейную грамадскую падтрымку. Такім прыкладам з'яўляюцца Злучаныя Штаты, Канстытуцыя якіх ёсць кароткае сцвярджэнне галоўных прынцыпаў, паўнамоцтваў і абмежаванняў урада, а таксама пэўны пералік абавязкаў, працэдур і, у Білі аб правах, асноўных правоў кожнага грамадзяніна.

Больш прасцейшы метад унясення папраўак, якім карыстаюцца многія народы, заключаецца ў тым, што кожная папраўка можа быць прынята са згоды заканадаўчага органа і пры падтрымцы ўдзельнікаў галасавання на чарговых выбарах. Канстытуцыі, якія можна мяняць такім спосабам, могуць аказацца дастаткова аб'ёмістымі, са спецыфічнымі нормамі права, якія звычайна мала чым адрозніваюцца ад палажэнняў, што змешчаны ў іншых заканадаўчых актах.

Ніводная канстытуцыя, напісаная ў XVIII стагоддзі, не здолела застацца нязменнай у канцы XX стагоддзя, як гэта адбылося з Кастытуцыяй Амерыкі. Гэтак жа ніводная канстытуцыя, якая дзейнічае сёння, не можа захавацца ў наступным стагоддзі без здольнасці да зменаў, цвёрда прытрымліваючыся пры гэтым прынцыпаў асабістых правоў, парадку судаводства і кіравання са згоды тых, кім кіруюць.

# ЛОК І МАНТЭСК'Ё

Інтэлектуальныя асновы сучаснай канстытуцыйнай дэмакратыі былі закладзены ў час еўрапейскага Асветніцтва – філасофскага руху XVIII стагоддзя, які вызначыўся тым, што адвяргаў традыцыйныя грамадскія, рэлігійныя і палітычныя ідэі і рабіў акцэнт на рацыяналізме. Двума самымі ўплывовымі яго прыхільнікамі былі англійскі палітычны філосаф Джон Лок і французскі юрыст і палітычны філосаф Мантэск'ё.

У 1690 г. Лок выдаў свой твор «Два трактаты аб кіраванні». Яго сцвярджэнне, што ўсе законныя ўрады абапіраюцца на «згоду тых, кім кіруюць», унесла глыбокія змены ў дыскусіі па палітычнай тэорыі і стымулявала развіццё дэмакратычных устаноў.

Сваёй ідэяй прыроднага права Лок абверг сцвярджэнне, згодна з якім урад, асабліва манархія, – гэта звяно ў прадвызначаным Богам ланцугу быцця. Лок даказаў, што прыроднае права адпавядае законам Госпада і гарантуе ўсім людзям асноўныя правы, у тым ліку на жыццё, на пэўныя свабоды, на ўласную маёмасць і на тое, каб атрымліваць вынікі сваёй працы. Лок даказаў, што для забеспячэння гэтых правоў людзі, аб'яднаныя ў грамадства, заключаюць дагавор са сваім урадам. Грамадзянін абавязаны падпарадкоўвацца закону, а ўрад мае права ствараць законы і абараняць дзяржаву ад чужаземнага нашэсця – і ўсё гэта робіцца дзеля грамадскага дабрабыту. Лок сцвярджаў, што калі які-небудзь урад становіцца беззаконным і адвольным, грамадзяне маюць права скінуць рэжым і надаць паўнамоцтвы новаму ўраду.

Тэорыя прыроднага права Лока натхніла цэлае пакаленне філосафаў Асветніцтва ў Еўропе і Новым Свеце – ад Жан-Жака Русо ў Францыі да Дэвіда Юма ў Шатландыі, Імануіла Канта ў Германіі і Томаса Джэферсана і Бэнджаміна Франкліна ў будучых Злучаных Штатах. Але, магчыма, самым выдатным спадчыннікам Лока быў Мантэск'ё, які, гэтак жа, як і Лок, верыў у рэспубліканскае кіраванне, што грунтуецца на згодзе тых, кім кіруюць, аднак не ў дэмакратыю, што абапіраецца на ўладу большасці. У выдадзеным у 1748 г. «Духу законаў» Мантэск'ё абараніў падзел і раўнавагу паўнамоцтваў паміж выканаўчай, заканадаўчай і судовай уладамі як сродак, што гарантуе свабоду асобы. Гэтая дактрына пазней дапамагла сфармаваць філасофскую канцэпцыю Канстытуцыі Злучаных Штатаў з яе падзелам улады паміж Прэзідэнтам, Кангрэсам і судовымі органамі.

ДЖЫН С. ХОЛДЭН





# Выбары




*Сутнасць выбараў*

Выбары з'яўляюцца цэнтральным інстытутам фарміравання прадстаўнічай улады ў дэмакратычным грамадстве. Чаму? Таму, што ў дэмакратычнай дзяржаве ўлада ўрада залежыць выключна ад згоды тых, кім кіруюць. Галоўным механізмам пераўтварэння гэтай згоды ва ўладу ўрада з'яўляецца правядзенне свабодных і справядлівых выбараў.

Усе сучасныя дэмакратычныя дзяржавы праводзяць выбары, але не ўсе выбары можна лічыць дэмакратычнымі. Правыя дыктатуры, марксісцкія рэжымы і аднапартыйныя ўрады таксама інсцэніруюць выбары, каб надаць сваёй уладзе законнасць. На такіх выбарах можа быць толькі адзін кандыдат або адзін спіс кандыдатаў, без аніякай альтэрнатывы. У такіх выбарах на адно месца можа прэтэндаваць некалькі кандыдатаў, але гарантуецца, дзякуючы запалохванню і махлярству, што ўсё роўна выберуць толькі адобранага ўрадам кандыдата. Іншыя выбары могуць быць сапраўднымі, аднак толькі ў межах адной, кіруючай партыі. Аднак гэта будуць таксама недэмакратычныя выбары.

*Што такое дэмакратычныя выбары?*

Джын Кіркпатрык, вучоная і былы прадстаўнік Злучаных Штатаў у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, прапануе такое вызначэнне: «Дэмакратычныя выбары – гэта не проста сімвал... Гэта спаборныя, рэгулярныя, усеагульныя і вызначальныя выбары, на якіх грамадзяне, што карыстаюцца шырокай свабодай крытыкаваць урад, абнародаваць сваю крытыку і прапаноўваць альтэрнатывы, выбіраюць членаў урада, якія будуць прымаць рашэнні».

Што азначаюць крытэрыі Кіркпатрык? Перш за ўсе тое, што дэмакратычныя выбары заснаваны на прынцыпе спаборніцтва. Апазіцыйныя партыі і кандыдаты карыстаюцца свабодай слова, сходаў і руху, неабходнай дзеля адкрытай крытыкі ўрада і прапаганды сярод выбаршчыкаў альтэрнатыўнай палітыкі і кандыдатаў. Аднаго толькі дазволу апазіцыі прымаць удзел у выбарах мала. Выбары, у якіх апазіцыі ствараюцца перашкоды ў карыстанні эфірам, яе сходы разганяюць, а выданні падвяргаюць цэнзуры, з'яўляюцца недэмакратычнымі. Кіруючая партыя можа карыстацца перавагамі свайго становішча, але правілы і працэдуры выбараў павінны быць справядлівымі.

Дэмакратычныя выбары праводзяцца на рэгулярнай аснове. У дэмакратычных краінах дыктатараў або прэзідэнтаў не выбіраюць пажыццёва. Абраныя асобы падсправаздачныя перад народам і праз пэўны час вяртаюцца да сваіх выбаршчыкаў, каб атрымаць мандат на захаванне сваёй пасады. Гэта азначае, што службовыя асобы ў дэмакратычным грамадстве бяруць на сябе рызыку быць перавыбранымі. Адзінае выключэнне прадугледжана дзеля суддзяў, якія, каб пазбавіць іх ад народнага ўціску і забяспечыць іх непрадузятасць, прызна-

чаюцца на пажыццёвы тэрмін і звальняюцца толькі за сур'ёзныя парушэнні.

Наступным прынцыпам дэмакратычных выбараў з'яўляецца іх ўсеагульнасць. Вызначэнне грамадзяніна і выбаршчыка павінна быць дастаткова шырокім, каб уключаць большую частку дарослага насельніцтва. Калі ўрад выбіраецца малой, асобнай групай людзей, гэта ўжо не дэмакратыя, хаця б яна такой і здавалася. Адной з вялікіх гістарычных драм дэмакратыі была барацьба асобных груп – расавых, этнічных, рэлігійных меншасцяў ці жанчын – за паўнату грамадзянскіх правоў, у тым ліку права ўдзельнічаць у выбарах і займаць дзяржаўную пасаду. У Злучаных Штатах, напрыклад, у 1787 г., калі была падпісана Канстытуцыя, правам выбіраць і самім быць абранымі карысталіся толькі белыя мужчыны, якія валодалі маёмасцю. Маёмасны выбарчы цэнз знік да пачатку XIX стагоддзя, а жанчыны дамагліся права голасу толькі ў 1920 г. Аднак чорныя амерыканцы, якія жылі ў паўднёвых Злучаных Штатах, не мелі поўных выбарчых правоў аж да 1960-х гадоў, калі пачаўся рух за грамадзянскія правы. І, нарэшце, маладзейшыя грамадзяне атрымалі права голасу ў 1971 г., калі Злучаныя Штаты знізілі ўзроставы цэнз з 21 да 18 гадоў.

Дэмакратычныя выбары з'яўляюцца вызначальнымі. Яны вызначаюць кіраўнікоў урада. Абраныя народам прадстаўнікі, якія падпарадкоўваюцца законам і канстытуцыі краіны, утрымліваюць уладу. Яны не з'яўляюцца намінальнымі ці сімвалічнымі лідэрамі.

І, нарэшце, дэмакратычныя выбары не абмяжоўваюцца абраннем кандыдатаў. Да выбаршчыкаў могуць звярнуцца з просьбай вырашыць палітычныя праблемы непасрэдна праз рэферэндум або вызначыць свае адносіны да ініцыятыў, якія пастаўлены на галасаванне. Так, у Злучаных Штатах заканадаўцы могуць прыняць рашэнне аб правядзенні рэферэндума і паставіць пытанне непасрэдна перад выбаршчыкамі. У парадку ініцыятывы грамадзяне могуць самастойна сабраць патрэбную колькасць подпісаў (якая звычайна вызначаецца ў кожным штаце ў працэнтах ад зарэгістраванага ліку выбаршчыкаў) і патрабаваць уключэння пытання ў бюлетэнь на наступных выбарах, нягледзячы на пярэчанні заканадаўчага органа або губернатара штата. У такім штаце, як Каліфорнія, выбаршчыкі на кожных выбарах сутыкаюцца з мноствам заканадаўчых ініцыятыў – ад праблем навакольнага асяроддзя да кошту страхоўкі аўтамабіляў.

### *Дэмакратычная этыка і лаяльная апазіцыя*

Дэмакратыі квітнеюць дзякуючы адкрытасці і адказнасці, за адным вельмі важным выключэннем: самога акта галасавання. Каб выбар быў свабодны, а магчымасць шантажу была зведзена да мінімуму, выбаршчыкам у дэмакратычнай дзяржаве павінны дазваляць галасаваць тайна. У той жа час ахова скрынкі з выбарчымі бюлетэнямі і падлік пададзеных галасоў неабходна весці як мага больш адкрыта, каб грамадзяне былі ўпэўнены, што вынікі галасавання дакладныя і што ўрад сапраўды абапіраецца на іх «згоду».

Адным з самых складаных дзеля ўспрыняцця паняццяў, асабліва ў краінах, дзе гістарычна пераход улады адбываўся ўзброеным шляхам, лічыцца паняцце «лаяльнай апазіцыі». Аднак яно вельмі важнае, бо, па сутнасці, азначае, што ў дэмакратычным грамадстве ўсе бакі падзяляюць агульныя абавязацельствы перад асноўнымі каштоўнасцямі дэмакратыі. Палітычныя сапернікі не абавязкова павінны падабацца адно аднаму, але яны павінны цярпець адзін аднаго і прызнаваць, што кожны з іх адыгрывае законную і важную ролю. Больш таго, асноўныя законы грамадства павінны спрыяць цярпімасці і цывілізаванасці ў грамадскай дыскусіі.

Калі выбары падыходзяць да канца, тыя, хто прайграў, пагаджаюцца з рашэннем выбаршчыкаў. Калі прайграла кіруючая партыя, яна мірна аддае ўладу. Незалежна ад таго, хто перамог, абодвы бакі даюць згоду на супрацоўніцтва дзеля вырашэння агульных праблем грамадства. Тыя, хто прайграў і цяпер знаходзяцца ў палітычнай апазіцыі, ведаюць, што яны не страцяць сваё жыццё і не трапяць у турму. Наадварот, апазіцыя – незалежна ад таго, складаецца яна з адной партыі ці з многіх, – можа працягваць удзел у грамадскім жыцці, ведаючы, што яе роля з'яўляецца істотнай у кожнай дэмакратыі, вартай гэтай назвы. Апазіцыя лаяльна не толькі да палітыкі ўрада, але і да асноўных законаў дзяржавы, і да самога дэмакратычнага працэсу.

Калі надыдзе час наступных выбараў, апазіцыйныя партыі будуць зноў мець магчымасць павесці барацьбу за ўладу. Акрамя таго, плюралістычнае грамадства – адзінае, у якім абмяжоўваецца сфера ўплыву ўрада, – як правіла, прапануе тым, хто прайграў выбары, альтэрнатывы дзеля службы ў няўрадавых органах. Тыя, хто пацярпеў паражэнне на выбарах, могуць працягваць дзейнасць у афіцыйнай апазіцыйнай партыі, а таксама вырашыць прыняць удзел у больш шырокім палітычным працэсе і дэбатах праз друк, выкладанне або далучэнне да адной са шматлікіх прыватных арганізацый, занятых праблемамі грамадскай палітыкі. Такім чынам, дэмакратычныя выбары – гэта не барацьба за выжыванне, а спаборніцтва за дзяржаўную службу.

# Культура дэмакратыі



*Грамадзянская культура*

Дэмакратыя – нешта большае за суму дэмакратычных інстытутаў. Здаровая дэмакратыя ў значнай меры залежыць ад развіцця дэмакратычнай грамадзянскай культуры. Культуру ў гэтым сэнсе, указвае Даяна Рэвіч, адносяць не да мастацтва, літаратуры ці музыкі, а да «паводзін, звычаяў і норм, што вызначаюць здольнасць народа да самакіравання».

«Таталітарная палітычная сістэма, – піша яна, – спрыяе культуры пасіўнасці і апатыі. Рэжым імкнецца сфармаваць пакорлівае і паслухмянае грамадзянскае насельніцтва. Наадварот, грамадзянская культура дэмакратычнага грамадства ствараецца актыўнай дзейнасцю асобных людзей і груп. Грамадзяне свабоднага грамадства імкнуцца да сваіх мэтаў, ажыццяўляюць свае правы і бяруць на сябе адказнасць за сваё жыццё. Яны вырашаюць самі, дзе ім працаваць, што рабіць, дзе жыць, ці далучацца да палітычнай партыі, што чытаць і г.д. Гэта асабістыя, а не палітычныя рашэнні».

Мастацкае ўвасабленне культуры грамадства – літаратура, выяўленчае мастацтва, драма і кіно – таксама існуюць незалежна ад урада. Дэмакратычнае грамадства можа падтрымліваць або іншым чынам спрыяць мастакам і пісьменнікам, але яно не ўсталёўвае мастацкіх норм і не выносіць прысуду мастацкай вартасці твораў, не падвяргае іх цэнзуры. Мастакі не знаходзяцца на дзяржаўнай службе і не абслугоўваюць яе. Галоўны ўклад дэмакратыі ў мастацтва заключаецца ў свабодзе ствараць, эксперыментаваць і наогул вывучаць свет розуму і душы чалавека.

*Дэмакратыя і адукацыя*

Адукацыя – важная састаўная частка жыцця любога грамадства, асабліва дэмакратычнага. Томас Джэферсан пісаў: «Калі народ спадзяецца, што ва ўмовах цывілізацыі можна быць недасведчаным і свабодным, то ён спадзяецца на тое, чаго ніколі не было і ніколі не будзе».

У процілегласць аўтарытарным грамадствам, якія імкнуцца ўкараніць пасіўнае ўспрыманне, мэтай дэмакратычнай адукацыі з'яўляецца выхаванне незалежных, крытычных і аналітычных па сваім светапоглядзе грамадзян, якія грунтоўна ведаюць прынцыпы і практыку дэмакратыі. Прафесар Вандэрбілцкага універсітэту Чэстэр І. Фін малодшы ў сваім выступленні перад выкладчыкамі ў Нікарагуа сказаў: «Людзі могуць нарадзіцца з прагай асабістай свабоды, але яны не нараджаюцца з ведамі пра грамадскі і палітычны парадак, які з цягам часу робіць свабоду магчымай дзеля іх і іх дзяцей... Такі вопыт набываецца. Яго трэба вывучаць».

Зыходзячы з гэтай перспектывы, мала сказаць, што задача адукацыі ў дэмакратычным грамадстве толькі ў тым, каб пазбавіць людзей ідэалагічнай апрацоўкі аўтарытарных рэжымаў і гарантаваць навучанне, якое не мае дачынення да палітыкі. Гэта

немагчыма: любая адукацыя, наўмысна ці не, перадае тыя ці іншыя каштоўнасці. Сапраўды, студэнтаў могуць вучыць прынцыпам дэмакратыі ў духу адкрытага даследавання, што ўжо само па сабе з'яўляецца важнай дэмакратычнай каштоўнасцю. Адначасова студэнтаў можна заахвоціць кінуць выклік традыцыйнаму светапогляду, ужываючы грунтоўныя доказы і руплівыя даследаванні. Гэта можа быць і вострая дыскусія, аднак падручнікі, якія ўжываюцца ў дэмакратычным грамадстве, не павінны проста ігнараваць непрыемныя ці спрэчныя падзеі або факты.

«Ва ўсіх свабодных грамадствах адукацыя выконвае адну і тую ж ролю, – сцвярджае Фін. – Калі адукацыйныя сістэмы іншых рэжымаў з'яўляюцца інструментамі гэтых рэжымаў, то ў дэмакратыі рэжым з'яўляецца слугой народа, народа, чые здольнасці ствараць, падтрымліваць і ўдасканальваць грамадскі лад у значнай меры залежаць ад якасці і эфектыўнасці сістэмы адукацыі, праз якую ён праходзіць. Можна справядліва сказаць, што ў дэмакратычным грамадстве адукацыя дае магчымасць квітнець самой свабодзе».

### *Канфлікт, кампраміс і кансэнсус*

У людзей ўзнікае мноства часам супярэчлівых жаданняў. Людзі прагнуць бяспекі, але цешацца рызыкай, дамагаюцца асабістай свабоды, аднак патрабуюць сацыяльнай роўнасці.

Дэмакратыя не з'яўляецца выключэннем, і важна прызнаць, што многія з гэтых супрацьлегласцяў, нават парадоксаў, маюць месца ў кожным дэмакратычным грамадстве. Лэры Даяманд, адзін з выдаўцоў часопісу «Джорнэл оф дэмокрэсі» і даследчык Гувераўскага інстытута, лічыць, што галоўны парадокс існуе паміж канфліктам і кансэнсусам. У шматлікіх выпадках дэмакратыя – гэта не больш чым набор правілаў уладжвання канфлікту. Адначасова гэты канфлікт трэба вырашаць у рамках пэўных абмежаванняў, у выніку чаго дасягаюцца кампрамісы, кансэнсус ці іншыя пагадненні, якія ўсе бакі лічаць законнымі. Звышнаціск на адным баку раўнавагі пагражае ўсёй справе. Калі групы людзей успрымаюць дэмакратыю не больш як сход, на якім яны могуць высказаць свае патрабаванні, то грамадства разладзіцца з сярэдзіны. Калі ж урад празмерна націскае на людзей дзеля дасягнення кансэнсусу, заглушаючы іх галасы, грамадства можа зруйнавацца зверху.

Справа ў тым, што тут няма адзінага ці лёгкага адказу. Дэмакратыя – гэта не машына, якая пачынае працаваць, калі ёй зададзены адпаведныя параметры і працэсы. Дэмакратычнае грамадства мае патрэбу ў свядомасці грамадзян, якія пагаджаюцца як з непазбежнасцю канфлікту, так і з неабходнасцю цярпімасці.

Важна прызнаць, што шматлікія канфлікты ў дэмакратычным грамадстве адбываюцца не паміж адназначна «правільным» і «няправільным», а паміж рознымі інтэрпрэтацыямі дэмакратычных правоў і сацыяльных прыярытэтаў. У Злучаных Штатах такіх дыскусій адбываецца шмат. Ці справядліва, напрыклад, размяркоўваць частку працоўных месцаў паміж прадстаўнікамі тых меншасцяў, якія традыцыйна цярпелі ад дыскрымінацыі? Ці мае дзяржава права пазбавіць каго-небудзь уласнага дома з-за неабходнасці пабудовы дарогі? Чые правы пераважаюць, калі грамадства імкнецца забараніць працы на лесанарыхтоўках ў імя захавання некранутай прыроды, але за кошт страты працоўных месцаў і адпаведнага эканамічнага развалу малых паселішчаў, якія цалкам залежаць ад функцыянавання лясной прамысловасці? Ці парушаюцца правы грамадзян і ці абараняюцца правы абшчыны, калі паліцыя наўздагад спыняе людзей, каб скараціць гандаль наркоцікамі?

Гэта няпростыя пытанні, і змястоўныя дэмакратычныя законы забяспечваюць толькі падставы дзеля звароту да падобных праблем і іх аналізу. Відаць, адказ на гэтыя пытанні з цягам часу можа змяніцца. Менавіта па гэтай прычыне так важна развіваць культуру дэмакратыі. Людзі і групы людзей павінны сама менш жадаць з цярпімасцю адносіцца да розных поглядаў, прызнаючы тое, што іншы бок таксама мае свае законныя правы і свой законны пункт гледжання. Розныя бакі, што прымаюць удзел у дыскусіі, у акруговым сходзе або ў нацыянальным парламенце, могуць затым сустрэцца дзеля пошукаў кампрамісу і прыняцця спецыяльнага рашэння, пабудаванага на агульных прынцыпах улады большасці і правоў меншасці. У некаторых выпадках неабходна афіцыйнае галасаванне, аднак часта групы могуць дасягнуць неафіцыйнага кансэнсусу ці пагаднення шляхам дыскусіі і кампрамісу. Гэта стварае дадатковыя выгоды ў справе пошуку даверу, неабходнага дзеля вырашэння будучых праблем.

«Стварэнне кааліцыі, – заўважае Даяна Рэвіч, – гэта сутнасць дэмакратычных мер. Гэта вучыць зацікаўленыя групы весці перамовы з іншымі, ісці на кампраміс і працаваць у межах канстытуцыйнай сістэмы. Ствараючы кааліцыю, групы з процілеглымі поглядамі вучацца мірна спрачацца, дамагацца сваіх мэтаў у дэмакратычнай манеры і, урэшце, жыць у разнастайным свеце».

Дэмакратыя — гэта не набор выяўленых нязменных ісцін, а механізм, з дапамогай якога праз сутыкненне і кампраміс ідэй, людзей і ўстаноў, народ можа, хай і недасканала, дасягнуць ісціны. Дэмакратыя — з'ява практычная. Ідэі і рашэнні праблем выпрабоўвае не застылая ідэалогія, а рэальны свет, дзе іх аспрэчваюць і змяняюць, прымаюць ці адхіляюць.

Самакіраванне не можа ахоўваць ад памылак, пакончыць з этнічнай барацьбой ці гарантаваць эканамічны росквіт. Аднак яно сапраўды дазваляе спрэчкі і даследаванні, якія могуць выявіць памылкі, дае магчымасць групам збірацца і вырашаць адрозненні, а таксама прапануе шырокія шляхі дзеля новаўвядзенняў і інвестыцый, што з'ўляюцца рухавікамі эканамічнага росту.




## БІЛЬ АБ ПРАВАХ І ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

Дзве гістарычныя дэкларацыі правоў чалавека былі зацверджаны адна за адной ўлетку і ў канцы 1789 года, менш чым праз месяц: 26 жніўня — французская Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна, 25 верасня — амерыканскі Біль аб правах. Абедзве бяруць свае вытокі з вучэння аб прыродных правах і іншых філасофскіх крыніц эпохі Асветніцтва, паколькі ў тыя часы адносіны паміж Францыяй і Амерыкай былі цеснымі і сумяшчальнымі. Але хутка шляхі гэтых краін разышліся.

Спачатку франка-амерыканскія адносіны былі складанымі і нават нясталымі. У часе Амерыканскай рэвалюцыі 1776 г. Францыя была цэнтрам Асветніцтва і радзімай самай магутнай у Еўропе манархіі — манархіі Бурбонаў, з яе пышным дваром у Версалі. Тым не менш менавіта Францыя ўзначаліла вайсковы саюз з мяцежніцкімі амерыканскімі калоніямі дзеля таго, каб нанесці ўдар па іх агульнаму ворагу — Вялікабрытаніі. Дзеля французскіх крытыкаў старога рэжыму Амерыка ўвасобіла, дакладна ці не вельмі, іх асветніцкія ідэалы свабоды ад цэнзуры, прыродных правоў і рацыянальнага рэфармавання ўрада.

Дзесяцігоддзем пазней амерыканцы горача віталі пачатак Вялікай Французскай рэвалюцыі — скліканне ўсеагульнага сходу саслоўяў, штурм Бастыліі і стварэнне Нацыянальнай Асамблеі. Але падтрымка спынілася разам з пакараннем смерцю Людовіка XVI і з пачаткам тэрору. Кансерватыўны федэралісцкі ўрад у Вашынгтоне быў ашаломляны жорсткасцю. «У Францыі пасеялі зубы дракона, з якіх выраслі пачвары», — заўважыў другі прэзідэнт Злучаных Штатаў Джон Адамс.

Праўда, з'явіўшаяся ў Злучаных Штатах палітычная апазіцыя на чале з Томасам Джэферсанам, працягвала падтрымліваць французскі рэспубліканскі рух. «Гэта адзін з раздзелаў гісторыі еўрапейскай свабоды», — пісаў Джэферсан. Былая ідэалізацыя Амерыкі французскімі рэфарматарамі і рэвалюцыянераміператварылася ў 1790-х гадах у ідэалізацыю Францыі амерыканскімі рэспубліканцамі.

Дзяячка французскага Асветніцтва мадам д'Удэто пісала ў сваім лісце да Джэферсана: «Вашую рэвалюцыю адрознівае ад нашай тое, што вам нічога не трэба было разбураць, таму вы нічога не маглі пашкодзіць». Гэтыя рэвалюцыі маглі значна адрозніваца, аднак і ў Білі аб правах, і ў Дэкларацыі правоў чалавека Францыя і Амерыка сцвердзілі выпрабаваныя часам асабістыя правы, якія ў розныя гады знайшлі свой водгук у мностве канстытуцый свету — ад польскай Канстытуцыі, напісанай 3 мая 1791 г., да нацыянальных канстытуцый, якія складаюцца сёння.

# Дэмакратычнае кіраванне




*Дэмакратыя і ўлада*

Прыхільнікі аўтарытарнай улады і іншыя крытыкі дэмакратыі памылкова лічаць, што дэмакратыі, не маючы ўлады на прыгнёт, не маюць паўнамоцтваў і на кіраванне. Такі погляд у аснове сваёй неправамерны: дэмакратыі патрабуюць, каб урады былі абмежаванымі, але гэта не азначае слабымі. Калі паглядзець праз прызму доўгага шляху гісторыі, нават улічваючы перавагі, што дало апошняе дзесяцігоддзе дэмакратычнага адраджэння, дэмакратыі сапраўды аказваюцца кволымі і нешматлікімі. Дэмакратыі ні ў якім разе нельга разглядаць па-за агульнымі тэндэнцыямі гісторыі; яны цярпелі крах у выніку палітычных правалаў, не вытрымлівалі ўнутранага падзелу або рушыліся ў выніку чужаземнага нашэсця. Але з цягам часу дэмакратыі прадэманстравалі значную здольнасць пераадольваць цяжкасці і паказалі, што дзякуючы абавязковасці і інфармаванай адданасці сваіх грамадзян яны могуць адолець сур'ёзныя эканамічныя цяжкасці, уладжваць праблемы сацыяльнага і этнічнага падзелу і, калі трэба, перамагаць у войнах.

Гэта і ёсць менавіта тыя, найчасцей цытуемыя аспекты дэмакратыі, якія надаюць ёй гібкасць. Працэсы дыскусій, разыходжанне ў поглядах і кампраміс, на якія ўказваюць як на яе недахопы, на самой справе з'яўляюцца яе моцнымі бакамі. Пэўна, ніхто ніколі не абвінавачваў дэмакратыі ў асаблівай здольнасці да дыскусій: дэмакратычны працэс прыняцця рашэнняў у вялікім складаным грамадстве можа быць бязладным, цяжкім і марным. Але ўсё ж урад, што абапіраецца на згоду тых, кім кіруе, можа гаварыць і дзейнічаць з упэўненасцю і вагой, якіх не хапае рэжыму, што абапіраецца на ваенную сілу або на нікім не абраны партыйны апарат.

**ЧАТЫРЫ АСНОЎНЫЯ ТЫПЫ ДЭМАКРАТЫІ**
(Асобныя краіны і рэгіёны)

| | *Прэзідэнцкія* | *Парламенцкія* |
|---|---|---|
| *Выбары па большасці галасоў* | Злучаныя Штаты<br>Філіпіны | Аўстралія<br>Вялікабрытанія<br>Індыя<br>Канада<br>Малайзія<br>Новая Зеландыя<br>Ямайка |
| *Прапарцыянальнае прадстаўніцтва* | Лацінская Амерыка | Заходняя Еўропа |

Табліца ўзята з артыкула Арэнд Ліджфарт «Канстытуцыйныя выбары дзеля новых дэмакратый», «Джорнэл оф дэмокрэсі» (том 2, №1, зіма 1991), стар. 74. Передрукавана з дазволу аўтара і выдавецтва Джон Хопкінс Юніверсіты Прэс.

### *Кантроль і раўнавага*

Адным з самых істотных укладаў Амерыкі ў практыку дэмакратыі з'яўляецца развіццё сістэмы кантролю і раўнаваг дзеля забеспячэння дэцэнтралізацыі і падзелу палітычнай улады. Гэта такая сістэма, якая грунтуецца на глыбокім перакананні, што ўрад становіцца лепшым, калі яго схільнасць да злоўжыванняў абмяжоўваецца і ён утрымліваецца як мага бліжэй да людзей.

Як агульны тэрмін, кантроль і раўнавага мае два значэнні: федэралізм і падзел улады.

Федэралізм — гэта падзел кіраўнічых функцый паміж нацыянальнымі, дзяржаўнымі і мясцовымі структурамі. Злучаныя Штаты, напрыклад, з'яўляюцца федэратыўнай рэспублікай, якая складаецца са штатаў, кожны з якіх мае ўласны прававы статус і незалежныя ад федэральнага ўраду органы. У адрозненне ад такіх краін, як Брытанія і Францыя, федэральны ўрад ЗША не можа ні скасаваць ніводны штат, ні памяняць іх структуру. Хаця ў XX стагоддзі ў Злучаных Штатах значна ўзмацніўся ўплыў нацыянальнай улады на кіраўніцтва штатаў, апошнія тым не менш здолелі захаваць значную самастойнасць у такіх сферах, як адукацыя, ахова здароўя, транспартныя сродкі і праваахова. У цэнтралізаваных або «унітарных» сістэмах гэтымі функцыямі кіруюць нацыянальныя ўрады. Асобныя штаты ЗША, у сваю чаргу, як правіла прытрымліваюцца федэраліцкай мадэлі, перадаючы, напрыклад, многія функцыі кіравання школамі і паліцэйскімі дэпартаментамі мясцовым абшчынам. Падзел улады і паўнамоцтваў у федэральнай сістэме ніколі не бывае дакладным і канчатковым: функцыі федэральных, дзяржаўных і мясцовых органаў могуць часткова супадаць або нават супярэчыць адна адной у такіх сферах, як, напрыклад, адукацыя; але важна тое, што федэралізм павялічвае магчымасці далучэння да працэсу грамадзян, што надзвычай важна дзеля функцыянавання дэмакратычнага грамадства.

У сваім другім азначэнні тэрмін «кантроль і раўнавагі» мае дачыненне да падзелу ўладаў, які былі так дакладна вызначаны творцамі амерыканскай Канстытуцыі ў 1789 годзе, што давала гарантыі дэканцэнтрацыі палітычнай улады ў адной галіне дзяржаўнага кіравання. Джэймс Мэдысан, магчыма, галоўная фігура ў складанні праекту Канстытуцыі, які пазней стаў чацвёртым прэзідэнтам Злучаных Штатаў, пісаў: «Канцэнтрацыя ўсёй улады — заканадаўчай, выканаўчай і судовай — у адных і тых жа руках... можа з поўным правам быць вызначана як тыранія».

Тэрмін «падзел улады» ў некаторым сэнсе з'яўляецца памылковым, паколькі сістэма, вынайдзеная Мэдысанам і іншымі творцамі Канстытуцыі, паказвае, што адбываецца хутчэй размежаванне, чым падзел уладаў. Напрыклад, заканадаўчая ўлада належыць Кангрэсу, але прэзідэнт можа накласці вета на законы, прынятыя Кангрэсам. Каб абвергнуць прэзідэнцкае вета, Кангрэс, у сваю чаргу, павінен набраць большасць галасоў, якая складае дзве трэція, як у Палаце прадстаўнікоў, так і ў Сенаце. Прэзідэнт прызначае паслоў і членаў кабінету і заключае міжнародныя пагадненні, але ўсе яны павінны быць зацверджаны Сенатам. Гэтак жа адбываюцца выбары федэральных суддзяў. Іншы прыклад: згодна з Канстытуцыяй, толькі Кангрэс мае права аб'яўляць вайну, хаця прэзідэнт з'яўляецца галоўнакамандуючым узброенымі сіламі; менавіта гэта было крыніцай напружанасці паміж дзвюма галінамі ўлады, асабліва ў час працяглай вайны ў В'етнаме ў 1960-х і пачатку 70-х гг. і ў ходзе кароткага канфлікту ў Персідскім заліве ў 1990–91 гг. Для ўвядзення палітычнай праграмы ў сілу прэзідэнту неабходна адабрэнне Кангрэсу, у сувязі з чым палітолаг Рычард Нойштат апісаў прэзідэнцкую ўладу ў Злучаных Штатах як «уладу не загадваць, а пераконваць».

Канстытуцыя вызначае далёка не ўсе выпадкі кантролю і раўнавагі. Некаторыя з іх атрымалі сваё развіццё шляхам практыкі і прэцэдэнту. Найважнейшай з'яўляецца дактрына судовага перагляду, вызначаная ў 1830 годзе, якая дае Вярхоўнаму суду

Злучаных Штатаў права аб'яўляць дзеянні Кангрэсу неканстытуцыйнымі.

Падзел улады ў амерыканскай сістэме часта з'яўляецца неэфектыўным, аднак ён забяспечвае важную гарантыю супраць патэнцыяльна магчымага злоўжывання ўрадам сваёй уладай – праблема, з якой сутыкаецца кожная дэмакратыя.

*Прэм'ер-міністры і прэзідэнты*

Адным з самых важных рашэнняў дэмакратыі з'яўляецца абранне лідэраў і прадстаўнікоў. Увогуле, ёсць дзве альтэрнатывы. У парламенцкай сістэме партыя большасці ў заканадаўчым органе фарміруе ўрад, які ўзначальваецца прэм'ер-міністрам. Такая сістэма парламенцкага кіравання, якая ўпершыню ўзнікла ў Вялікабрытаніі, дзейнічае сёння ў большасці краін Еўропы, Карыбскага басейну, у Канадзе, Індыі і ў многіх краінах Азіі і Афрыкі (часта былых брытанскіх калоніях). Іншы распаўсюджаны метад – прамыя выбары прэзідэнта незалежна ад заканадаўчых устаноў. Гэтая прэзідэнцкая сістэма ажыццяўляецца сёння ў большасці краін Лацінскай Амерыкі, на Філіпінах, у Францыі, Польшчы і Злучаных Штатах.

Парламенцкая і прэзідэнцкая сістэмы адрозніваюцца, галоўным чынам, характарам узаемаадносін паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі. У парламенцкай сістэме яны фактычна адно і тое ж, паколькі прэм'ер-міністр і члены кабінету выбіраюцца з членаў парламента. Тэрмін дзейнасці ўрада, як правіла, працягваецца дакладна вызначаны перыяд, напрыклад, чатыры ці пяць год, пакуль прэм'ер-міністр не страціць большасці ў парламенце. У такім выпадку ўрад ідзе ў адстаўку, і праводзяцца новыя выбары. Лідэру альтэрнатыўнай партыі прапануюць шанц сфарміраваць урад у якасці главы дзяржавы – прэзідэнта або канстытуцыйнага манарха, роля якога ў асноўным сімвалічная.

Падзел улады, характэрны дзеля прэзідэнцкай сістэмы амерыканскага тыпу, мае свае адмоўныя рысы, паколькі парламент з'яўляецца пераважна кіраўнічай установай. Замест гэтага парламенцкія сістэмы, каб забяспечыць кантроль і раўнавагу ў адносінах да ўрада, павінны значна больш спадзявацца на ўнутраную палітычную дынаміку ў самім парламенце. Гэта звычайна прымае форму адзінай арганізаванай апазіцыйнай партыі, якая кантралюе дзейнасць урада, або форму канкурэнцыі шматлікіх апазіцыйных партый.

У прэзідэнцкай сістэме прэзідэнт выконвае абавязкі як кіраўніка ўрада, так і кіраўніка дзяржавы. Народ непасрэдна абірае на пэўны перыяд прэзідэнта і членаў Кангрэсу. Як адзін з элементаў праявы падзелу ўлады, члены кабінету прэзідэнта звычайна не з'яўляюцца членамі Кангрэсу. Прэзідэнты могуць быць зняты з пасады да заканчэння свайго тэрміну толькі за сур'ёзныя злачынствы або за злоўжыванне службовым становішчам. Заканадаўчая большасць, якая прадстаўляе партыю прэзідэнта, можа аблегчыць прынящце яго палітычнай праграмы, але ў адрозненне ад прэм'ер-міністраў прэзідэнты не залежаць ад такіх большасцяў, калі справа ідзе аб іх знаходжанні на пасадзе.

*Прадстаўнікі*

Іншае важнае дзеля кожнай дэмакратыі рашэнне – гэта арганізацыя выбараў. Ізноў вызначаюць два асноўных тыпы: выбары па большасці галасоў і прапарцыянальнае прадстаўніцтва. Выбары па большасці галасоў, якія часам называюць «пераможца бярэ ўсё», азначаюць, што ў пэўнай акрузе перамагае кандыдат, які набраў большасць галасоў (больш за 50%), або мноства галасоў (менш за 50%, але больш за астатніх канкурэнтаў). Гэтак жа, але ўжо на нацыянальным узроўні, адбываюцца выбары прэзідэнта. Некаторыя сістэмы прадугледжваюць правядзенне другога тура выбараў паміж двума лідыруючымі кандыдатамі ў тым выпадку, калі ў першым туры выбараў ніхто не атрымаў абсалютнай большасці. Сістэма абсалютнай большасці галасоў



традыцыйна падтрымлівае дзве буйнейшыя палітычныя партыі, што дамінуюць на палітычнай сцэне.

У сістэме прапарцыянальнага прадстаўніцтва, якой карыстаецца большасць краін Еўропы, выбаршчыкі звычайна галасуюць не за асобных кандыдатаў, а за палітычныя партыі. Партыйнае прадстаўніцтва ў нацыянальнай заканадаўчай сістэме вызначаецца працэнтнымі суадносінамі ці прапорцыяй галасоў, атрыманых на выбарах кожнай партыяй. У парламенцкай сістэме лідэр партыі большасці становіцца прэм'ер-міністрам і фарміруе кабінет з членаў парламента. Калі ж ніводная з партый не атрымала большасці, то ўсе яны прымаюць удзел у напружаных перамовах па стварэнню кааліцыйнага ўрада. Прапарцыянальнае прадстаўніцтва схільна падтрымліваць шматлікія партыі, якія, нягледзячы на адносна малы працэнт прыхільных выбаршчыкаў, часта ўдзельнічаюць у перамовах за месца ў кааліцыйным урадзе.

*Парламенты і прэзідэнты*

Галоўным патрабаваннем дзеля парламенцкіх сістэм, да якіх сёння адносяцца большасць дэмакратычных краін, з'яўляецца адказнасць і гібкасць. Парламенцкія ўрады, асабліва абраныя метадам прапарцыянальнага прадстаўніцтва, набліжаюцца да шматпартыйных сістэм, дзе нават параўнаўча невялікія палітычныя групоўкі прадстаўлены ў заканадаўчым органе. У выніку пэўныя меншасці могуць удзельнічаць у палітычным працэсе на самых высокіх узроўнях кіравання. Гэта спрыяе дыялогу і кампрамісу, паколькі партыі павінны змагацца за тое, каб утварыць кіруючую кааліцыю. Калі кааліцыя церпіць правал або партыя страчвае свой мандат, прэм'ер-міністр ідзе ў адстаўку, фарміруецца новы ўрад або праводзяцца новыя выбары — і ўсё гэта без крызісу, які б пагражаў самой дэмакратычнай сістэме.

Галоўны недахоп парламентаў — гэта адваротны бок гібкасці і ўдзелу ва ўладзе — нестабільнасць. Шматпартыйныя кааліцыі могуць аказацца слабымі і цярпець крах пры першых жа прыкметах палітычнага крызісу, у выніку чаго ўтвараюцца ўрады, якія кіруюць вельмі кароткі час. Урад можа таксама трапіць у залежнасць ад маленькіх экстрэмісцкіх партый, якія, пагражаючы выхадам з кіруючай кааліцыі і прымушаючы ўрад пайсці ў адстаўку, могуць прад'яўляць яму асаблівыя палітычныя патрабаванні. Больш таго, прэм'ер-міністры — гэта толькі партыйныя лідэры, таму яны адчуваюць недахоп паўнамоцтваў, якія надаюцца пры прамым абранні народам.

Іншая праблема ўзнікае з-за адсутнасці інстытута афіцыйнага кантролю за дзейнасцю парламента. Напрыклад, палітычная партыя з досыць вялікай большасцю ў парламенце можа без перашкодаў прыняць доўгатэрміновую, нават антыдэмакратычную праграму без аніякіх абмежаванняў, што можа выклікаць у перспектыве тыранію большасці.

З іншага боку, галоўнымі патрабаваннямі да прэзідэнцкіх сістэм з'яўляюцца прамая адказнасць, пераемнасць і сіла. Прэзідэнты, абраныя народам на пэўны перыяд часу, могуць незалежна ад становішча сваёй палітычнай партыі ў кангрэсе патрабаваць паўнамоцтваў, атрыманых у выніку прамых выбараў. Ствараючы асобныя, тэарэтычна раўнапраўныя галіны кіравання, прэзідэнцкая сістэма ўсталёўвае моцную выканаўчую і заканадаўчую сістэмы, кожная з якіх здольная запатрабаваць у народа свой выбарчы мандат і ўраўнаважваць дзейнасць іншай. Тыя, хто засцерагаецца тыраніі выканаўчай улады, будуць дамагацца асаблівай ролі дзеля кангрэсу; тыя, хто клапоціцца пра верагоднае злоўжыванне ўладай часовай большасці ў заканадаўчым органе, будуць адстойваць паўнамоцтвы прэзідэнта.

Слабасць раздзельна абраных прэзідэнтаў і заканадаўчых органаў — гэта патэнцыяльны тупік. У прэзідэнтаў можа не дастаць галасоў, каб ажыццявіць свае праграмы, аднак, скарыстаўшы сваё права вета, яны могуць прадухіліць замену сваёй праграмы праграмай кангрэса.

Дзякуючы сваім прамым выбарам прэзідэнты могуць паказацца больш магутнымі, чым прэм'ер-міністры. Між тым, яны павінны спаборнічаць з заканадаўчымі органамі, якія незалежна ад таго, кантралюе іх апазіцыя ці не, абраны на тых жа прынцыпах, што і прэзідэнт. Партыйная дысцыпліна ў прэзідэнцкай сістэме значна слабейшая, чым у парламенцкай. У прэзідэнцкай сістэме прэзідэнт не можа, напрыклад, зняць з пасады або пакараць нязгодных членаў партыі, як гэта звычайна робіць прэм'ер-міністр. Прэм'ер-міністр, што мае ўстойлівую парламенцкую большасць, упэўнены ў прыняцці заканадаўчай праграмы ўрада; прэзідэнт жа, каб забяспечыць прыняцце свайго законапраекта, павінен доўга весці перамовы з кангрэсам, які вельмі дбайна адносіцца да сваіх прапаноў.

Якая сістэма лепш адпавядае патрабаванням канстытуцыйнай дэмакратыі: парламенцкая ці прэзідэнцкая? Адказ на гэтае пытанне з'яўляецца прадметам доўгай дыскусіі паміж палітолагамі і палітыкамі, таму што кожная з дзвюх сістэм мае унікальныя моцныя і слабыя бакі. Аднак трэба адзначыць, што хаця абедзве сістэмы сумяшчальныя з канстытуцыйнай дэмакратыяй, ніводная не гарантуе яе. (Глядзі табліцу на стар. 22).

# Трэцяя хваля дэмакратыі

З пункту гледжання палітолага Гарвардскага універсітэту Сэмюэла П. Хантынгтана, гісторыя дэмакратыі — не марудны няўхільны пад'ём, а непарыўны ланцуг хваляў, што паступова накатваліся, адступалі, затым сыходзіліся і ўздымаліся зноў.

У часопісе «Джорнэл оф дэмокрэсі» Хантынгтан у сваім артыкуле вызначае тры гістарычныя ці «доўгія хвалі» дэмакратыі. Першая пачалася ў пачатку XIX стагоддзя з пашырэння права голасу на вялікую частку мужчынскага насельніцтва Злучаных Штатаў і працягвалася да 1920-х гг. У гэты перыяд з'явіліся на свет каля 29 дэмакратычных дзяржаў. Спад першай хвалі пачаўся ў 1922 г., з прыходам да ўлады ў Італіі Мусаліні, і працягваўся да 1942 г., калі колькасць дэмакратычных дзяржаў зменшылася да 12.

Другая хваля пачалася трыумфам саюзнікаў у другой сусветнай вайне, і дасягнула свайго піку ў 1962 г., калі лік дэмакратычных дзяржаў дасягнуў 36. Спад другой хвалі ў перыяд паміж 1962 г. і сярэдзінай 1970-х гг. скараціў іх да 30. Аднак пачынаючы з 1974 г., трэцяя хваля дэмакратыі дадала да гэтай колькасці прыкладна 30 новых дзяржаў, падвоіўшы лік такіх грамадстваў, нават без уліку палітычных рэвалюцый у Савецкім Свюзе і ў некаторых частках Афрыкі.

Ці дасягнула ўжо піку трэцяя хваля? Ці трэба чакаць цяпер спаду, які ліквідуе многія з заваёў дэмакратыі 1970-х і 1980-х гг.? Хантынгтан аналізуе складаную расстаноўку палітычных і культурных сіл у самых розных рэгіёнах свету, але не прыходзіць ні да якіх пэўных высноў. Тым не менш ён заключае, што спад трэцяй хвалі дэмакратыі цалкам верагодны і, магчыма, за ім надыдзе чацвёртая хваля, дзе-небудзь у XXI стагоддзі.

Аднак гэтая мадэль ні ў якім разе не з'яўляецца нязменнай. «Мяркуючы па фактах мінулага, можна сцвярджаць, што на далейшае ўмацаванне і пашырэнне дэмакратыі будуць уплываць два вырашальныя фактары: эканамічнае развіццё і палітычнае кіраўніцтва, — піша Хантынгтан. — Эканамічнае развіццё робіць дэмакратыю магчымай; палітычнае кіраўніцтва робіць яе рэальнай».



# ПАЛІТЫКА, ЭКАНОМІКА І ПЛЮРАЛІЗМ




*Удзел*

Ад грамадзянаў нельга патрабаваць удзелу ў палітычным працэсе, і яны вольныя выяўляць сваё незадавальненне няўдзелам. Але без жыццёвай сілы грамадзянскага дзеяння дэмакратыя пачне слабець. Таму грамадзянам дэмакратычных грамадстваў даецца магчымасць уступаць у шматлікія прыватныя арганізацыі, аб'яднанні і добраахвотныя групы. Многія з гэтых арганізацый і аб'яднанняў займаюцца праблемамі грамадскай палітыкі, некаторыя з якіх кантралюе ці фінансуе ўрад. Права людзей свабодна аб'ядноўвацца і арганізоўвацца ў розныя віды неўрадавых груповак – адно з асноўных дзеля дэмакратыі. Калі людзі з агульнымі інтарэсамі збіраюцца разам, іх галасы могуць пачуць, а значыць, павялічваюцца іх шансы паўплываць на палітычную дыскусію. Як пісаў вядомы французскі палітычны дзеяч XIX стагоддзя Алексіс дэ Таквіль, «няма краін, у якіх, дзеля папярэджання дэспатызму фракцыі ці дэспатычнай улады караля, аб'яднанні былі б патрэбнымі больш, чым у заснаваных дэмакратычным шляхам».

У дэмакратычных грамадствах ёсць безліч груп, якія можна класіфікаваць па розных падставах. Тыя, чыя галоўная функцыя заключаецца ў тым, каб па асобных пытаннях аказваць уплыў на ўрад, адносяцца да груп палітычнай зацікаўленасці, або лобі. Групы ж асабістай зацікаўленасці – дзелавыя асацыяцыі, прафесійныя групы або прафесійныя

саюзы – звычайна прымаюць эканамічны ўдзел у той палітыцы, якую падтрымліваюць, хаця яны могуць таксама заняць пазіцыю грамадскасці па пытаннях, якія не ўваходзяць у кола іх інтарэсаў.

Так званыя групы грамадскай зацікаўленасці, гэтак жа як і арганізацыі, звязаныя з аховай навакольнага асяроддзя і сацыяльным забеспячэннем, прэтэндуюць на выражэнне грамадскай ці калектыўнай зацікаўленасці. Гэта не робіць падобныя групы больш мудрымі або больш дабрадзейнымі ў параўнанні з групамі асабістай зацікаўленасці. Праўда, дзеля вырашэння грамадскіх праблем іх асабістыя інтарэсы маюць другараднае значэнне.

Абодва тыпы груп зацікаўленасці дзейнічаюць у кожнай дэмакратычнай краіне. Усе яны звяртаюцца непасрэдна да грамадскай думкі, імкнучыся пашырыць сваю базу падтрымкі, патрэбную ім для таго, каб адначасова выхоўваць грамадства і ўплываць на ўрадавую палітыку.

Групы зацікаўленасці служаць дзеля сувязі паміж асобай і ўрадам (звычайна вялікім і далёкім). У працэсе ўзаемадзеяння паміж гэтымі групамі – праз адкрытую дыскусію, канфлікт, кампраміс і кансэнсус – дэмакратычнае грамадства прымае такія рашэнні, якія аказваюць уплыў на дабрабыт яго членаў.

### *Галасаванне*

Галасаванне на выбарах службовых асобаў можна лічыць самай нагляднай і простай формай удзелу грамадзян у жыцці сучасных дэмакратый, да таго ж самай асноўнай. Здольнасць праводзіць свабодныя і справядлівыя выбары – гэта сутнасць таго, што носіць назву дэмакратычнага грамадства.

Матывы выбаршчыкаў такія ж шматлікія, як тыя грамадствы і групы, якія яны прадстаўляюць. Зразумела, удзельнікі выбараў аддаюць свае галасы за тых кандыдатаў, якія найлепш выражаюць іх інтарэсы, але ў той жа час на іх выбар уплываюць і іншыя фактары. Адзін з іх – членства ў партыі: можна быць упэўненым, што людзі, якія атаясамліваюцца з якой-небудзь палітычнай партыяй, прагаласуюць за яе больш пэўна, чым тыя, хто лічыць сябе незалежнымі або беспартыйнымі. Сапраўды, у сістэмах прапарцыянальнага прадстаўніцтва выбаршчыкі могуць мець магчымасць галасаваць толькі за палітычную партыю, а не за асобных кандыдатаў.

Палітолагі вызначылі іншыя фактары, што аказваюць уплыў на тое, каму аддае перавагу выбаршчык, і на колькасць удзельнікаў выбараў. Для прыкладу, грамадствы з сістэмай прапарцыянальнага прадстаўніцтва, дзе для прадстаўніцтва ў заканадаўчым органе мае значэнне кожны голас, імкнуцца мець значна большую колькасць удзельнікаў выбараў, чым грамадствы, дзе простая большасць або мноства галасоў па акрузе вызначае пераможцу. Сацыяльна-эканамічны статус, адносная свабода рэгістрацыі выбаршчыкаў, моц партыйнай сістэмы, імідж кандыдатаў, створаны мас медыа, частата правядзення выбараў – усё гэта ўплывае на колькасць і актыўнасць удзельнікаў выбараў. Таму ў дэмакратычных выбарах вынік барацьбы часта не вызначае кандыдата з найбольшай грамадскай падтрымкай і аўтарытэтам, а таго, хто здольны найбольш эфектыўна матываваць яго ці яе падтрымку, кабператварыць іх меркаванні ў галасы. Небяспека апатыі выбаршчыка не ў тым, што з-за яе застануцца незанятымі грамадскія пасады, а ў тым, што чыноўнікі будуць абірацца на пасаду ўсё меншай колькасцю галасоў.

### *Палітычныя партыі*

Палітычныя партыі падбіраюць, прапануюць і праводзяць кампанію па выбару службовых асобаў; складаюць дзеля ўрада палітычныя праграмы, калі знаходзяцца ў большасці; крытыкуюць іх і прапануюць альтэрнатыўную палітыку, калі знаходзяцца ў апазіцыі; заручаюцца падтрымкай грамадскіх арганізацый сярод розных зацікаўленых груп; адукуюць грамадскасць па сучасных праблемах; прадугледжваюць структуру і правілы грамадскай палітычнай дыскусіі. У асобных палітычных сістэмах ідэалогія можа быць важным фактарам пры падборы і матывацыі членаў партыі; у іншых жа сістэмах эканамічныя або грамадскія выгоды пераважаюць ідэалагічныя абавязкі.

Партыйныя арганізацыі і працэдуры адрозніваюцца ў значнай ступені. На адным канцы спектра, у шматпартыйных парламенцкіх сістэмах Еўропы, палітычныя партыі з'яўляюцца арганізацыямі са строгай дысцыплінай, якімі кіруюць выключна прафесіяналы. На другім – Злучаныя Штаты, дзе канкурыруючыя рэспубліканская і дэмакратычная партыі – дэцэнтралізаваныя арганізацыі, якія функцыянуюць галоўным чынам у Кангрэсе і на дзяржаўным ўзроўні. Гэты стан мяняецца кожныя чатыры гады, калі нацыянальныя арганізацыі рэспубліканскай і дэмакратычнай партыяў, абапіраючыся на вялікую дапамогу добраахвотнікаў, аб'ядноўваюцца дзеля правядзення прэзідэнцкіх выбарчых кампаній.

Палітычныя партыі такія ж розныя, як і грамадствы, у якіх яны дзейнічаюць. Іх выбарчыя кампаніі могуць быць складанымі, як правіла, патрабаваць шмат часу ці быць простымі. Аднак функцыі іх надзвычай сур'ёзныя: яны гарантуюць мірны і справядлівы метад, з дапамогай якога грамадзяне

дэмакратычнай краіны могуць выбіраць сваіх лідэраў і такім чынам адыгрываць значную ролю ў вызначэнні свайго лёсу.

*Пратэст*

У дэмакратычным грамадстве грамадзяне маюць права мірна збірацца і выказваць пратэст супраць палітыкі свайго ўрада ці дзеянняў іншых груп праз дэманстрацыі, маршы, петыцыі, байкоты, забастоўкі і іншыя формы прамых грамадзянскіх дзеянняў.

Прамыя дзеянні ў дэмакратычнай краіне адкрыты дзеля кожнага, але па традыцыі гэтым карысталіся прыгнечаныя, тыя, што аказваліся ў невыгодным становішчы або ў меншасці і адчувалі сябе пазбаўленымі сродкаў уплыву на палітыку ўрада. Такія пратэсты былі заўсёды часткай грамадства. Сёння мірны пратэст, які часам мае на мэце толькі прыцягнуць увагу сродкаў масавай інфармацыі, можа закранаць вялікае кола праблем — ад забруджвання навакольнага асяроддзя да ядзернай зброі, пытанняў знешняй палітыкі і расавай і этнічнай дыскрымінацыі. Адна з асаблівых праяў прамых дзеянняў — права прафсаюзаў праводзіць забастоўкі супраць наймальнікаў, з якімі яны не змаглі прыйсці да высновы ў час перамоў.

Пратэсты — гэта спосаб праверкі любой дэмакратыі. Ідэалы свабоднага выказвання і дзеянняў грамадзян лёгка абараняць тады, калі кожны застаецца законапаслухмяным і ў згодзе з асноўнымі палажэннямі. Аднак пратэстуючыя — і іх мэты — не пагаджаюцца з асноўнымі палажэннямі, прычым такія разыходжанні могуць быць гарачымі і гнеўнымі. У такім выпадку вырашэнне праблемы зводзіцца да ўстанаўлення балансу паміж абаронай правоў на свабоду слова і сходаў і адначасным захаваннем грамадскага парадку і супрацьстаяння спробам запалохвання і гвалту. Падаўляць мірны пратэст у імя парадку — значыць спрыяць рэпрэсіям; дазволіць бескантрольны нястрыманы пратэст — значыць садзейнічаць анархіі.

Каб дасягнуць гэтай раўнавагі, няма нейкай магічнай формулы. Урэшце, гэтая раўнавага залежыць ад здольнасці большасці выконваць свае абавязкі — падтрымліваць дэмакратычныя інстытуты і прынцыпы правоў чалавека. Дэмакратычныя грамадствы здольныя вытрымаць самыя вострыя рознагалоссі паміж грамадзянамі, апрача нязгоды па пытаннях законнасці самой дэмакратыі.

*Сродкі масавай інфармацыі*

Кіраваць — азначае забяспечваць зносіны. Паколькі сучасныя грамадствы растуць і ўскладняюцца, арэна зносін і грамадскай дыскусіі ўсё больш трапляе пад уплыў сродкаў масавай інфармацыі: радыё і тэлебачання, газет, часопісаў, кніг і нават камп'ютэрызаваных баз дадзеных.

У дэмакратычным грамадстве сродкі масавай інфармацыі маюць шмат часткова супадаючых, аднак дакладных функцый. Адна з іх — інфармаваць і адукаваць. Каб прымаць прадуманыя рашэнні па праблемах грамадскай палітыкі, людзям трэба дакладная, своечасовая і аб'ектыўная інфармацыя.

Паколькі погляды разыходзяцца, ім патрабуецца доступ да шырокага кола поглядаў. Гэта асабліва важна ў перыяд выбарчых кампаній, калі вельмі мала выбаршчыкаў маюць магчымасць бачыць, яшчэ менш — гаварыць з кандыдатамі асабіста. Замест гэтага яны вымушаны спадзявацца на інфармацыю, атрыманую з газет і тэлебачання, што растлумачвае праблемы і характарызуе адпаведныя пазіцыі кандыдатаў і палітычных партый, якія яны прадстаўляюць.

Другую функцыю сродкаў масавай інфармацыі можна параўнаць са службай вартавога сабакі, які ахоўвае інтарэсы ўрада і іншых магутных грамадскіх устаноў. Якімі б недасканалымі ні былі крытэрыі незалежнасці і аб'ектыўнасці, якіх прытрымліваюцца сродкі масавай інфармацыі, яны могуць праўдзіва паказваць мэты ўрадаў і падтрымліваць у службовых асобаў пачуццё адказнасці за свае ўчынкі.

Пры жаданні сродкі масавай інфармацыі могуць выконваць больш актыўную ролю ў грамадскай дыскусіі. З дапамогай рэдакцыйных артыкулаў або рэпарцёрскіх даследаванняў СМІ могуць праводзіць кампаніі ў падтрымку палітыкі або іншых рэформаў, якія, на іх думку, трэба ажыццяўляць. Акрамя таго, яны могуць служыць форумам дзеля арганізацый і асобных людзей, друкуючы, напрыклад, іх лісты да выдаўца і артыкулы з рознымі пазіцыямі аўтараў.

Каментатары ўказваюць на ўзрастанне ролі сродкаў масавай інфарамацыі ў вызначэнні праблем, якія неабходна паставіць на «павестку дня». Паколькі сродкі масавай інфармацыі не могуць паведамляць пра ўсё, што адбываецца, яны павінны выбіраць, пра што ім гаварыць, а што ігнараваць. Карацей кажучы, яны вырашаюць, што можна лічыць навінамі, а што — не. А гэта, у сваю чаргу, уплывае на ўспрыняцце грамадствам таго, якія пытанні самыя важныя. Аднак у адрозненне ад краін, дзе сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца пад кантролем урада, у дэмакратычных краінах яны не маюць права па свайму жаданню проста маніпуляваць ці наогул ігнараваць праблемы. Апрач таго, іх канкурэнты, як і сам урад, свабодныя прыцягваць увагу да найважнейшых, на іх думку, праблем.

Ніхто не стане аспрэчваць, што сродкі масавай інфармацыі заўсёды з адказнасцю выконваюць гэтыя функцыі. Газетныя рэпарцёры і тэлевізійныя карэспандэнты могуць імкнуцца да аб'ектыўнасці, аднак навіны непазбежна фільтруюцца праз схільнасць і разважлівасць людзей і ўстаноў, на якія яны працуюць. З гэтай прычыны інфармацыя можа быць сенсацыйнай, павярхоўнай, надакучлівай, недакладнай і правакацыйнай. Тым не менш, выйсце заключаецца не ў тым, каб ствараць законы, якія б давалі адвольныя тлумачэнні адказнасці або ліцэнзавалі працу журналістаў, а ў тым, каб павышаць узровень грамадскіх дыскусій, што дазволіць грамадзянам, лягчэй вызначыўшы дэзінфармацыю і рыторыку, знайсці зярняткі ісціны. Олівэр Вэндэл Холмс малодшы, вядомы суддзя Вярхоўнага суда Злучаных Штатаў, у 1919 г. сказаў: «Лепшае выпрабаванне ісціны — гэта здольнасць ідэі быць прынятай да спаборніцтва на рынку».




### *Дэмакратыя і эканоміка*

Дэмакратыя сама па сабе не прапануе ніякай эканамічнай дактрыны. У склад дэмакратычных урадаў уваходзяць як адданыя сацыялісты, так і свабодныя гандляры. Сапраўды, добрая частка ўсіх дыскусій у кожнай сучаснай дэмакратыі прысвячаецца належнай ролі ўрада ў эканоміцы.

Але тым не менш будзе справядлівым сказаць, што прыхільнікі дэмакратыі звычайна лічаць эканамічную свабоду ключавым элементам у любым дэмакратычным грамадстве. Гэта не перашкаджае таму, што эканамічныя праблемы становяцца галоўнай сілай, якая падзяляе грамадства і вызначае яго «левы-правы» палітычныя спектры, якімі мы іх ведаем сёння.

Сацыял-дэмакраты, напрыклад, падкрэслівалі неабходнасць роўнасці і дабрабыту, што з'яўляецца сутнасцю эканамічнай палітыкі ўрада. У мінулым гэта змусіла ўрад узяць на сябе права ўласнасці на галоўныя кампаненты нацыянальнай эканомікі — тэлекамунікацыі, транспарт і часткова цяжкую індустрыю. Тая ж патрэба змусіла ўрад забяспечваць медыцынскую дапамогу, дапамогу па беспрацоўі і іншыя сацыяльныя гарантыі тым, хто мае ў гэтым патрэбу. Цэнтрысцкія і кансерватыўныя палітычныя партыі, наадварот, звычайна надаюць значна большую ўвагу эканоміцы свабоднага рынку, непадуладнай урадаваму кантролю або ўмяшанню, як найбольш эфектыўнаму сродку для дасягнення эканамічнага росту, тэхналагічнага прагрэсу і ўсеагульнага росквіту.

Аднак на самой справе, усе бакі ў эканамічных дэбатах падзяляюць агульныя погляды ў большай ступені, чым яны маглі б прызнаць у запале палітычнай дыскусіі. Напрыклад, і левыя, і правыя пагаджаюцца з важнасцю ролі, якую выконвае незалежны ад урада свабодны працоўны рух. У свабодным грамадстве рабочыя маюць магчымасць утвараць або далучацца да саюзаў, якія прадстаўляюць іх інтарэсы ў адносінах з работадаўцамі па такіх пытаннях, як заработная плата, медыцынскія і пенсійныя выгоды, умовы працы і скаргавыя працэдуры.

Ніводная сучасная дэмакратычная дзяржава не мае эканамічнай сістэмы, якая б цалкам належала дзяржаве або была б цалкам свабоднай ад урадавага рэгулявання. Усе яны сумяшчаюць элементы свабоднага прадпрымальніцтва і ўрадавага нагляду.

Усе грунтуюцца на дзеянні свабоднага рынку, дзе цэны вызначае не ўрад, а незалежныя рашэнні тысячаў спажыўцоў і вытворцаў, якія ўзаемадзейнічаюць кожны дзень.

Левыя палітычныя партыі, як правіла, сацыялдэмакратычнай арыентацыі, пагаджаюцца з тым, што свабодны рынак, які дзейнічае згодна з прынцыпамі прапановы і попыту, з'яўляецца асноўным сродкам эканамічнага росту і росквіту. Адпаведна, правацэнтрысцкія партыі, якія звычайна супрацьстаяцца ўрадаваму ўмяшанню або ўласнасці на вытворчасць, прымаюць адказнасць урада за кіраўніцтва пэўнымі аспектамі эканомікі — гарантаванне дапамогі па беспрацоўі, медыцынскай і іншых выгод сучаснай багатай краіны, а таксама выкарыстанне падаткавай палітыкі дзеля стымуляцыі эканамічнага развіцця. У выніку дзеля сучасных дэмакратычных краін характэрна тэндэнцыя мець розныя ў дэталаях, але агульныя ў асноўных рысах гаспадаркі.

Крах цэнтралізаваных планавых гаспадарак у шматлікіх частках свету ў апошнія гады яшчэ больш узмацніў рашаючую ролю свабоднага рынку. Відавочна, што і ў палітычных, і ў эканамічных справах неад'емным элементам застаецца свабода. Як вызначыў Морыс Эбрам, прадстаўнік ЗША ў Камісіі па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, «адна толькі свабода не гарантуе эканамічнага поспеху. Але рэпрэсіі больш пэўна гарантуюць эканамічны правал». Нават у тых рэдкіх выпадках, калі аўтарытарныя рэжымы дасягнулі значных эканамічных поспехаў, яны зрабілі гэта, забяспечваючы свабоду ў эканамічнай сферы, у чым яны адмаўлялі сваім грамадзянам палітычна. Больш таго, іх поспех, як правіла, не ўзмацніў надоўга рэжымы, аднак, як гэта было ў Чылі і на Тайвані, паспрыяў таму, каб людзі пачалі дамагацца палітычнай свабоды, якая адпавядала б узроўню свабоды эканамічнай.

Дэмакратыі і надалей будуць гэтак жа актыўна, як і ў мінулым, абмяркоўваць эканамічныя пытанні. Але ўсё часцей дыскусія засяроджвае ўвагу не на няўдалай альтэрнатыве дзяржаўна-камандных эканомік, а на забеспячэнні выгодаў свабоднага рынку дзеля ўсіх людзей ва ўсё больш ўзаемазалежным свеце.(Дзеля больш поўнага знаёмства з эканамічнымі пытаннямі раім прагледзець брашуру з гэтай серыі пад назвай «Што такое рыначная эканоміка?»).

### *Погляды*

Дэмакратыі прапануюць некалькі меркаванняў на прыроду чалавека. Адно з іх заключаецца ў тым, што людзі, калі ў іх ёсць шанц, як правіла, здольныя кіраваць сабой у справядлівай і свабоднай манеры. Згодна з другім, кожнае грамадства змяшчае ў сабе вялікую разнастайнасць інтарэсаў і людзей, якія заслугоўваюць таго, каб іх галасы пачулі і погляды паважалі. Дзеля ўсіх здаровых дэмакратый справядліва адно: яны шумлівыя.

Былы прэзідэнт Джордж Буш назваў вялікую колькасць добраахвотных арганізацый у Злучаных Штатах «тысячай кропак святла». Гэтая метафара ўвасабляе разнастайнасць, ці плюралізм, усіх дэмакратычных грамадстваў. Погляды дэмакратычнай краіны складаюцца з поглядаў урада, яго палітычных прыхільнікаў і, зразумела, апазіцыі. Аднак да іх далучаюцца яшчэ погляды прафесійных саюзаў, арганізаваных зацікаўленых груп, акруговых аб'яднанняў, сродкаў масавай інфармацыі, вучоных і крытыкаў, рэлігійных дзеячоў і пісьменнікаў, невялікіх фірмаў і буйных карпарацый, цэркваў і школ.

Усе гэтыя групы вольныя ўзнімаць свае галасы і ўдзельнічаць у дэмакратычным палітычным працэсе, як на мясцовым, так і на нацыянальным узроўні. У такім выпадку дэмакратычная палітыка дзейнічае як фільтр, праз які праходзяць па шляху да вызначэння грамадскай палітыкі патрэбы, выказаныя разнастайнай масай насельніцтва. Як аднойчы сказаў былы прэзідэнт Джымі Картэр, «вопыт дэмакратыі падобны да вопыту самога жыцця — заўсёды зменлівы, бязмежны ў сваёй разнастайнасці, часам неспакойны і, выпрабаваны неспрыяльнымі абставінамі, усё больш і больш каштоўны».

Дэмакратыя сама па сабе не гарантуе нічога. Замест гэтага яна прапануе як магчымасць мець поспех, так і рызыку правалу. Паводле гучнага, але пранікнёнага выразу Томаса Джэферсана, дэмакратыя абяцае «жыццё, свабоду і пошукі шчасця».

Дэмакратыя, у такім разе, гэта і абяцанне, і выклік. Абяцанне таго, што свабодныя людзі, працуючы разам, змогуць кіраваць сабой у той манеры, якая будзе адпавядаць іх імкненням да асабістай свабоды, эканамічных магчымасцяў і сацыяльнай справядлівасці. Гэта выклік, бо поспех дэмакратычнай ініцыятывы абапіраецца на плечы яе грамадзянаў і ні на што болей.

Кіраванне народа і народам значыць, што грамадзяне дэмакратычнага грамадства падзяляюць яго выгоды і цяжкасці. Беручы на сябе задачу самакіравання, адно пакаленне імкнецца захаваць цяжка здабытую спадчыну асабістай свабоды, правоў чалавека і ўлады закону дзеля нашчадкаў. У кожным грамадстве і ў кожным пакаленні народ павінен наноў будаваць дэмакратыю — беручы прынцыпы мінулага і дапускаючы іх да звычаяў новага стагоддзя і зменлівага грамадства.

Іосіф Бродскі, паэт расейскага паходжання, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, аднойчы напісаў: «Свабодны чалавек, калі яму не шанцуе, не вінаваціць нікога». Гэта справядліва і для ўсіх грамадзянаў дэмакратыі, якія, у рэшце рэшт, павінны прымаць на сябе адказнасць за лёс таго грамадства, якое яны самі абралі дзеля жыцця.

У рэшце рэшт, мы маем такі ўрад, якога вартыя.

